*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года

№ 6 (1157) 5 ЛЮТАГА 2014 г.

## Мінадукацыі вітае жаданне настаўнікаў выкладаць некаторыя прадметы па-беларуску

Міністэрства адукацыі вітае жаданне настаўнікаў выкладаць некаторыя прадметы на беларускай мове. Пра гэта ў пятніцу, 31 студзеня, на круглым стале па праблемах маладых педагогаў, які адбыўся падчас III Рэспубліканскага фестывалю педагагічнага майстэрства "Педагог-майстар - маладому настаўніку", заявіў намеснік міністра адукацыі Беларусі Васіль Будкевіч, адказваючы на пытанне маладых педагогаў, чаму падручнікі па прадмеце "гісторыя Беларусі" выдаюцца на рускай мове.

- Калі ў вучня ёсць жаданне вывучаць, а ў настаўніка выкладаць прадмет на беларускай мове, то гэтаму ніхто не перашкаджае. Мы ставім задачу, каб у рускамоўных школах падручнікі па гісторыі і геаграфіі былі ў двух варыянтах - на рускай і беларускай мовах. Таму гэта штучна створаная праблема. Я, як і вы, лічу, што было б правільна выкладаць гісторыю Беларусі на беларускай мове, - сказаў Васіль Будкевіч.

*БелТА.*

## У Гомелі студэнт упершыню абараніў дыплом інжынера па-беларуску

Упершыню за 45-гадовую гісторыю Гомельскага дзяржаўнага тэхнічнага ўніверсітэта імя П. Сухога адбылася абарона дыпломнага праекту, цалкам распрацаванага на беларускай мове.



Студэнт завочнай скарочанай формы навучання спецыяльнасці "Прамысловая электроніка" Андрэй Грабянчук у атачэнні чарцяжоў, выкананых на роднай мове, цалкам па-беларуску прадставіў перад камісіяй распрацаваную сучасную сістэму кіравання газавай блокавай гарэлкі для катлаагрэгата і прадэманстраваў яе работу на рэальнай праграмна-апаратнай мадэлі.

Андрэй, які працуе на пасадзе слесара кантрольна-вымяральных прыбораў ААТ "Рэчыцкі метызны завод", прызнаецца, што яму прыемна размаўляць на роднай мове, але, на жаль, не заўсёды ён мае такую магчымасць:

- Увогуле даволі мала тых, хто размаўляе па-беларуску, - дзеліцца Андрэй - Прынамсі, у мяне такое жаданне існавала ўжо даўно.

Ва ўмовах невытлумачальна рэдкага ўжывання роднай мовы на афіцыйным узроўні і ў сродках масавай інфармацыі нашай краіны прыходзілася не аднойчы звяртацца да слоўнікаў, да літаратурных твораў, каб удасканальваць свае веды і размоўны досвед.

На шчасце, у свой час на працы я пазнаёміўся з чалавекам, які меў падобную цікавасць. Паміж сабою мы размаўлялі па-беларуску. І таму пазней мне вельмі прыемна было сустрэць аднадумцаў і ў нашым універсітэце.

Прапанаваў Андрэю абараняць дыплом на беларускай мове яго кіраўнік - загадчык кафедры Юры Крышнёў, які размаўляе ўжо доўгі час толькі на роднай мове і па сваёй уласнай ініцыятыве выкладае на ёй тэхнічныя дысцыпліны студэнтам. Менавіта ён дапамог Андрэю і ў правільнай трактоўцы часткі адмысловай тэрміналогіі дыпломнага праекту.

У некаторых выпадках ім прыходзілася разам звяртацца да рэдкіх тэхнічных слоўнікаў адмысловых тэрмінаў аўтаматыкі і электронікі, з той прычыны, што ў звычайных слоўніках адпаведныя вузкаспецыялізаваныя тэхнічныя тэрміны адсутнічалі або даваліся ў спрошчаным выглядзе.

І ў заключэнні трэба дадаць, што беларускамоўнаму студэнту ўсе без выключэння ўдзельнікі камісіі паставілі адзнаку "10", што бывае даволі рэдка.

*newsgomel.by.*

## Увага

У лютым 2014 г. у сядзібе ТБМ у межах кампаніі "Будзьма" працягвае працаваць гістарычная школа "Гісторыя ў падзеях і малюнках" пад кіраўніцтвам кандыдата гістарычных навук **Алега Трусава**.

Заняткі будуць прысвечаны вывучэнню гісторыі Беларусі ў XIII - XVI ст.

На занятках будуць дэманстравацца гістарычныя фільмы розных тэле- і кінастудый.

Падчас заняткаў таксама прадугледжаны абмен думкамі наконт сучаснага стану беларускай мовы і яе функцыянавання ў грамадстве.

Такім чынам, удзельнікі змогуць павысіць свае веды па гісторыі Беларусі і папрактыкавацца ў веданні беларускай мовы.

У студзені заняткі адбудуцца: **3 лютага** (панядзелак), **10 лютага** (панядзелак), **17 лютага** (панядзелак).

Пачатак а 18-й на вул. Румянцава, 13.

Уваход вольны.

ISSN 2073-7033




## 100 гадоў з дня нараджэння Аркадзя Куляшова

**Куляшоў Аркадзь** нарадзіўся 06.02.1914 г. у вёсцы Саматэвічы Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці ў сям'і настаўнікаў.

У 1928 г. паступіў у Мсціслаўскі педагагічны тэхнікум, а ў 1931 г. перайшоў на першы курс літаратурнага факультэта Беларускага вышэйшага педагагічнага інстытута, дзе правучыўся да вясны 1933 г. Быў сябрам БелАПП. Працаваў у рэдакцыі газеты "Чырвоная змена" (1934), на Беларускім радыё (1934-1936), літкансультантам у кабінеце маладога аўтара пры СП БССР (1936-1937). У 1941-1943 гг. - на фронце ў армейскай газеце "Знамя Советов", у 1943-1945 гг. - у Беларускім штабе партызанскага руху. У 1945-1946 гг. - рэдактар газеты "ЛіМ", у 1958-1967 гг. - на "Беларусьфільме". У 1961 г. у складзе дэлегацыі БССР удзельнічаў у рабоце XVI сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Абіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР (1947-1978). Сябра СП СССР з 1934 г. Узнагароджаны двума ордэнамі Леніна, ордэнам Чырвонага Сцяга, двума ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга і медалямі.




*Марка, выдадзеная "Белпоштай" да 100-годдзя Аркадзя Куляшова*



Народны паэт БССР (1968), заслужаны работнік культуры Украінскай ССР (1973). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1946), Дзяржаўнай прэміі СССР (1949), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы, прэміі Ленінскага камсамолу Беларусі (1968).

Памёр 04.02.1978 г.

*Вікіпедыя.*

## 100 гадоў з дня нараджэння Валянціна Таўлая



**Валянцін Паўлавіч Таўлай** (псеўд.: Усяслаў Барвінец, Янка Бунтар, Васіль, Ілюк Прышчэпа (з Я. Брылём), Паўлюк Сірата, В. Тарскі і інш.; 8 лютага (26 студзеня) 1914, Баранавічы - 27 красавіка 1947, Мінск) - беларускі паэт, літаратуразнавец.

Нарадзіўся ў сям'і чыгуначніка. Дзяцінства прайшло ў вёсцы Рудаўка на Слонімшчыне. Вучыўся ў Лідскай школе, Слонімскай настаўніцкай семінарыі; у 1925 выключаны за адмову запісацца палякам. Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі. За падпольную дзейнасць арыштаваны 28.8.1929; знаходзіўся ў зняволенні ў Слонімскай і Гарадзенскай турмах. З кастрычніка 1930 у БССР. У 1930-32 працаваў у Рэчыцы інструктарам райкаму камсамолу, у газеце "Звязда", вучыўся на газетным аддзяленні літфака БДУ. У снежні 1932 накіраваны на падпольную работу ў Заходнюю Беларусь. Арыштаваны 4.1.1934 пры спробе пераходу польска-савецкай мяжы. Асуджаны на 8 гадоў турмы; змешчаны ў Гарадзенскі астрог. У верасні 1939 вызвалены з турмы Чырвонай Арміяй. У 1939-41 працаваў у лідскай раённай газеце "Уперад". Сябар СП Беларусі з 1941. У гады Вялікай Айчыннай вайны быў сувязным партызанскага атрада імя Р. Катоўскага брыгады імя Ф. Дзяржынскага Баранавіцкага злучэння (1942-1944), разведчыкам, кіраўніком навагрудскай агентурнай сеткі спецгрупы "Буравеснік". У верасні 1943 арыштаваны СД у Лідзе, вызвалены з дапамогай беларускіх паэтаў і палітычных дзеячаў. З канца лета 1944 адказны сакратар навагрудскай раённай газеты "Звязда". У 1945-47 старшы навуковы супрацоўнік і намеснік дырэктара Літаратурнага музея Янкі Купалы.

*Вікіпедыя.*




*Канверт, выдадзены "Белпоштай" да 100-годдзя Валянціна Таўлая*



№ 6 (1157) 5 ЛЮТАГА 2014 г. Наша слова

# План дзейнасці

## Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" на 2014 год

| № | Назва мерапрыемства | Тэрмін выканання | Адказны за правядзенне |
|---|---|---|---|
| 1. | **Асветніцка-педагагічная праца**<br>- з бацькамі, дзеці якіх пойдуць у дзіцячыя садкі і першыя класы ў 2013-2014 навучальным годзе;<br>- з бацькамі і іх дзецьмі, якія навучаюцца ў рускамоўных і беларускамоўных адукацыйных установах;<br>- з арганізацыямі і ўстановамі з мэтай прапаганды беларускай мовы і літаратуры;<br>- правядзенне курсаў беларускай мовы і беларусазнаўства;<br>- звярнуцца да дзяржаўных і недзяржаўных тэлеканалаў па дапамогу ў стварэнні беларускамоўных класаў. | На працягу года | Бацькоўскі камітэт, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| 2. | **Праца рэгіянальных арганізацый ТБМ па захаванні і адкрыцці беларускамоўных адукацыйных устаноў**: збор подпісаў, лісты ў дзяржаўныя ўстановы, пікеты і інш. | На працягу года | Рэгіянальныя структуры ТБМ, Мінская гарадская арганізацыя ТБМ, Сакратарыят (каардынацыя) |
| 3. | **Супрацоўніцтва** з дзяржаўнымі структурамі па пытанні выкарыстання дзяржаўнай беларускай мовы, у тым ліку з мэтай захавання і пашырэння беларускай тапанімікі, з Міністэрствам сувязі па пытаннях выпуску беларускамоўнай прадукцыі. | На працягу года | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| 4. | **Супрацоўніцтва** з банкаўскімі структурамі па пытаннях афармлення на беларускай мове бланкаў, рэквізітаў і іншай банкаўскай прадукцыі. | На працягу года | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| 5. | **Праца з прадпрыемствамі** па ўкараненні беларускамоўнага афармлення выпусканай прадукцыі. | На працягу года | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| 6. | **Работа па пашырэнні кола падпісчыкаў і чытачоў** на "Наша слова", "Новы час ", "Верасень" і іншыя беларускамоўныя газеты і часопісы. | На працягу года | Сакратарыят, першасныя суполкі ТБМ |
| 7. | **Правядзенне гістарычных і літаратурных сустрэч** у межах кампаніі "Будзьма". | На працягу года | А. Трусаў |
| 8. | **Святкаванне Міжнароднага дня роднай мовы.**<br>Правядзенне круглых сталоў, сустрэч з чытачамі (разам з пісьменнікамі і журналістамі).<br>Першы этап Агульнанацыянальнай дыктоўкі - 21 лютага (2-і этап - 15 сакавіка, 3-і этап - 25 сакавіка). | 21 лютага<br>15 сакавіка<br>25 сакавіка | Сакратарыят, Мінская гарадская арганізацыя ТБМ, абласныя і раённыя структуры ТБМ |
| 9. | **Забеспячэнне дзейнасці інтэрнет-партала ТБМ.** | На працягу года | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| 10. | **Святкаванне юбілею ТБМ (25 гадоў):**<br>Выданне святочнай паштоўкі, канверта і каляндарыка да юбілею. | Чэрвень-верасень | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| 11. | **Адзначыць Еўрапейскі дзень моваў** | Верасень | Сакратарыят Рэгіянальныя структуры |
| 12. | **Правядзенне чарговага з'езду ТБМ:**<br>Выданне да з’езду “Летапісу ТБМ” за апошнія пяць гадоў дзейнасці аб’яднання. | Кастрычнік | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| 13. | **Праца над праектам стандарту беларускай мовы** | На працягу года | А. Анісім |
| 14. | **Адзначыць наступныя даты:** | | |
| | **125 год** ад дня нараджэння **Язэпа Мамонькі** (28.01.1889 - 10.09.1937), беларускага палітычнага дзеяча і публіцыста. | 28 студзеня | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| | **130 гадоў** з дня нараджэння **Антона Іванавіча Луцкевіча** (1884-1942), гісторыка, публіцыста, палітычнага і грамадскага дзеяча. | 29 студзеня | |
| | **100 гадоў** з дня нараджэння **Аркадзя Куляшова**, беларускага паэта | 6 лютага | |
| | **100 гадоў** з дня нараджэння **Валянціна Таўлая**, беларускага паэта. | 8 лютага | |
| | **80 гадоў** з дня нараджэння **Міколы Янкоўскага**, беларускага фалькларыста, кандыдата філалагічных навук, дацэнта. З 1975 г. выкладаў у Гарадзенскім універсітэце імя Я. Купалы. Памёр у 1995 г. | 12 лютага | |
| | **125 гадоў** з дня нараджэння **М.Я. Байкова** (1889-1941), педагога, лінгвіста, літаратуразнаўца. | 22 лютага | |
| | **90 гадоў** з дня нараджэння **Мікалая Мельнікава**, беларускага літаратуразнаўца, пісьменніка-мемуарыста, кандыдата педагагічных навук, дацэнта. Працаваў у Гарадзенскім універсітэце імя Я. Купалы. Памёр у 2012 г. | 26 лютага | |
| | **200 гадоў** з дня нараджэння **Іосіфа Гашкевіча**, першага консула Расейскай Імперыі ў Японіі. | 16 сакавіка | |
| | **Дзень памяці Кастуся Каліноўскага** | 22 сакавіка | |
| | **220 гадоў** таму (1794 г.) пачалося **паўстанне пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі.** | 13 красавіка | |
| | **200 гадоў** з дня нараджэння **Яўстафія Тышкевіча**, беларускага гісторыка, археолага, краязнаўца. Вывучаў гарадзішчы ў Гальшанах (Ашмянскі р-н), Міры (Карэліцкі р-н), Лідзе, Крэве (Смаргонскі р-н). Памёр у 1873 г. | 18 красавіка | |
| | **70 гадоў** з часу заснавання (1944 г.) у Менску **Літаратурнага музея Янкі Купалы.** | 2 траўня | |
| | **90 гадоў** з дня нараджэння **Васіля Уладзіміравіча Быкава** (1924-2003г.), народнага пісьменніка, Беларусі, грамадскага дзеяча. | 19 чэрвеня | |
| | **150 гадоў** з дня нараджэння **Аляксандра Казіміравіча Сержпутоўскага** (1864-1940), беларускага этнографа, фалькларыста. | 21 чэрвеня | |
| | **25 гадоў** з дня **Устаноўчага з'езду** Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. | 27 чэрвеня | |
| | **90 гадоў** ад пачатак палітыкі **беларусізацыі ў БССР.** | 15 ліпеня | |
| | **220 гадоў** з дня нараджэння **Міхаіла Ігнатавіча Балінскага** (1794-22.12.1883 г.), гісторыка і публіцыста. | 14 жніўня | |
| | **150 год** ад дня нараджэння чэшскага пісьменніка, вучонага-славіста, папулярызатара грамадскага і культурнага жыцця беларусаў **Адольфа Чэрнага** (19.08.1864 - 27.12.1952). Пасля наведвання Беларусі выдаў у 1895 г. кнігу "Беларускія песні з Дзісненскага павета Віленскай губерні. Перакладаў вершы Цёткі, Купалы, Коласа. | 19 жніўня | |
| | **300 гадоў** з дня нараджэння **Міхала Карыцкага** (1714, м. Дзітрыкі) паэта-лацініста (зборнік "Песні" на лацінскай мове). | 7 верасня | |
| | **500 гадоў Аршанскай бітвы.** | 8 верасня | |
| | **155 гадоў** з дня нараджэння **Браніслава Эпімах-Шыпілы.** | 16 верасня | |
| | **220 гадоў** з дня нараджэння **Ігната Ходзькі**, польскага і беларускага пісьменніка. Жыў у маёнт. Дзевятні (Смаргонскі р-н). Памёр у 1861. | 29 верасня | |
| | **230 гадоў** з дня нараджэння **Тодара Нарбута**, бацькі беларускіх гісторыкаў. | 8 лістапада | |
| | **75 гадоў** таму 3-я (нечарговая) сесія Вярхоўнага Савета Беларускай ССР прыняла закон **"Аб прыняцці Заходняй Беларусі ў склад Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі".** У выніку насельніцтва Беларусі павялічылася да 11 млн. чалавек. | 14 лістапада | |
| | **130 год** ад дня нараджэння рускага і чэшскага гісторыка-славіста, даследчыка жыцця і творчасці Ф. Скарыны **Антонія Флароўскага** (14.12.1882 - 27.03.1968). | 14 снежня | |
| | **75 гадоў** з дня нараджэння (1939 г.) **Зьніча** (сапр. А.А. Бембель), паэта, публіцыста, філосафа. | 16 снежня | |
| | **95 гадоў** з дня нараджэння **Мікалая Пятрэнкі**, беларускага кампазітара, заснаввальніка Полацкай арганізацыі ТБМ. | 19 снежня | |
| | **80 гадоў** з дня нараджэння **Івана Чыгрынава** (1934 - 5.1.1996), народнага пісьменніка Беларусі. | 21 снежня | |
| | **230 гадоў** з дня нараджэння **Зарыяна Даленгі-Хадакоўскага** (сапр. Адам Чарноцкі, 1784-1825), славяназнаўца, археолага, гісторыка, фалькларыста, дыялектолага, этнографа. | 24 снежня | |
| | **180 гадоў** з дня нараджэння **Нікадзіма Сільвановіча**, мастака. | 25 снежня | |
| 15. | **Адзначыць юбілейныя даты сяброў ТБМ:** | | |
| | **75 гадоў** з дня нараджэння **Барыса Георгіевіча Мускага**, актыўнага сябра ТБМ. | 8 студзеня | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| | **85 гадоў** з дня нараджэння **Анатоля Пятровіча Грыцкевіча**, знакамітага беларускага гісторыка і грамадскага дзеяча | 31 студзеня | |
| | **80 гадоў** з дня нараджэння **Арсеня Сяргеевіча Ліса**, фалькларыста, доктара філалагічных навук. | 4 лютага | |
| | **80 гадоў** з дня нараджэння **Міколы Іванавіча Савіцкага**, змагара за беларускую мову, кандыдата эканамічных навук, прафесара. | 4 лютага | |
| | **85 гадоў** з дня нараджэння **Леаніда Міхайлавіча Лыча**, доктара гістарычных навук, прафесара. | 8 лютага | |
| | **80 гадоў** з дня нараджэння **Кастуся Аляксеевіча Цвіркі**, паэта, перакладчыка, выдаўца. | 28 сакавіка | |
| | **75 гадоў** з дня нараджэння **Анатоля Іосіфавіча Валахановіча**, гісторыка, журналіста, пісьменніка. | 17 красавіка | |
| | **70 гадоў** з дня нараджэння **Зянона Пазняка**, беларускага грамадска-палітычнага і культурнага дзеяча, тэатразнаўца, археолага, публіцыста, паэта, кандыдата мастацтвазнаўства. З мяст. Суботнікі (Іўеўскі р-н). | 24 красавіка | |
| | **75 гадоў** з дня нараджэння (1939 г.) **Зінаіды Аляксандраўны Бандарэнкі**, дыктара тэлебачання, народнай артысткі Беларусі. | 28 красавіка | |
| | **60 гадоў** з дня нараджэння **Алега Трусава**, старшыні ТБМ. | 7 жніўня | |
| | **60 гадоў** з дня нараджэння **Станіслава Судніка**, рэдактара "Нашага слова". | 21 верасня | |
| | **90 гадоў** з дня нараджэння **І. Я. Лепешава**, мовазнаўца, доктара філалагічных навук, прафесара. | 23 кас-чніка | |

*(Прыняты 26.01.2014 г.)*





# 80 гадоў на роднай зямлі

Юбілеі прыемна адзначаць тым людзям, якія жывуць плённа і стваральна, бо плады іх жыцця кожнае дзесяцігоддзе цікава збіраць, аналізаваць, паказваць на радасць сабе і людзям.

Так сёння прыемна падсумоўваць зробленае знакамітаму прафесару, навукоўцу, выкладчыку, грамадскаму дзеячу, ветэрану Адраджэння Міколу Савіцкаму.

Нарадзіўся Мікола Іванавіч 4 лютага 1934 года ў фальварку Гарадок (Заходняя Беларусь), які быў спалены ў вайну. Цяпер гэта Глыбоцкі раён Віцебскай вобласці.

Сям'я была беззямельная, дзед Захар арандаваў зямлю ў пані Гапшэвіч, а калі бацька Іван і маці Надзея пабраліся, то 3 гектары маці прынесла ў сям'ю з пасагам. У сям'і было 5 дзяцей, двое хлопцаў і трое дзяўчат, старэйшы за ўсіх - Мікола. Ён і даглядаў, і выхоўваў малодшых, бо суровы бацька і мяккая, спагадлівая маці, якая заўсёды заступалася за дзятву, былі пастаянна ў працы.



*Мікола Савіцкі, 1986 г.*

Жылі бедна, адным словам - галота. Мікола ўспамінае, як маці адпраўляла яго, 5-гадовага, на суседні хутар, дзе жонка жаўнера мела прыватную краму, па цукар. Ён купіў пяць кавалачкаў і нёс дадому. А галодны ж, хочацца ўкусіць. Паспрабаваў, але ўбачыў, што заўважна, будзе бацька сварыцца. Тады хоць палізаў трошкі, каб зняць прагу. А святам у сям'і быў дзень, калі варылася манная каша, манка.

Не гледзячы на беднасць, Савіцкія вырашылі будаваць сваю вялікую хату, і будавалі пасля вайны яе, пяцісценку, доўга, нават так да канца і не дабудавалі, бо бацька памёр рана, у 55 гадоў. Шукалі муляраў, печнікоў, якіх пасля вайны было няшмат. І ў спадара Міколы маецца адчуванне, што іх печку клаў бацька Васіля Быкава, бо Гарадок стаяў блізка ад Бычкоў. А цётка Быкава ўвогуле жыла на польскім баку блізка каля Савіцкіх. Тады Мікола яшчэ не ведаў, што спрычыніцца да беларускага пісьменства ў прасторавай акалічнасці, якая адкрые шлях у Адраджэнне. Юнак з увагай слухаў аповяды старэйшых пра землякоў, якія потым стануць славай Беларусі. Хлопец некалькі гадоў жыў у бабулі Марфы ў Чашках, якая расказвала, як яна танцавала 8 кален кадрылі з Ігнатам Буйніцкім. А з Васілём Быкавым Міколу таксама ўдалося блізка пакантактаваць. Калі яны ішлі ў адным шэсці на мітынг спякотным летам, і спадар Мікола ўбачыў, як горача любімаму пісьменніку, то ён засланіў таго сваім парасонам.

Маці Надзея жыла доўга, больш за 90 гадоў, ужо зусім у паважным узросце хадзіла на мітынгі, а калі не змагла, то пастаянна пыталася ў сына: "Ну і калі вы ўжо дойдзеце да Беларусі?"

Пасля школы хлопец паступае ў Інстытут народнай гаспадаркі ў Менск, і там пачынаецца і доўжыцца ўсё яго жыццё.

Калі я спытала ў шаноўнага прафесара, як ён уступіў на шлях Адраджэння, то спадар Мікола прыгадвае Маскву, дзе ён вучыўся ў аспірантуры і дзе стараўся пазбавіцца ад беларускага акцэнту. А той як на ліха не збываўся. Прайшоўшы праз сарамяжнасць, тады хлопец прыняў на ўсё жыццё адзінае рашэнне. Сваё, роднае - гэта не сорам, гэта - гонар. Нельга яго выкідаць на сметнік. І любіць, і ведаць сваё - пачэсна. І Мікола, працуючы ў маскоўскай бібліятэцы, штодзень для адпачынку заказваў беларускую літаратуру, асабліва Якуба Коласа "Новую зямлю". І супрацоўнікі бібліятэкі потым ужо самі дакладалі да навуковай літатуры ягоныя любімыя творы.

А ўжо калі ён год папрацаваў у Чэхаславакіі ў 1969 годзе, то там адчуў вялікі сорам, што не ведае сваёй Радзімы. За суседнім сталом працаваў чэшскі інжынер, дацэнт Гіб, прафесар, высокаадукаваны чалавек, які стажыраваўся ў Англіі. І той ведаў столькі інфармацыі пра чэшскія і звязаныя з імі баларускія акалічнасці - і пра БНР, і пра Забэйду-Суміцкага, што навуковец Савіцкі адчуў сябе няёмка і вырашыў заняцца самаадукацыяй.

Прыехаў ён у Менск зусім другім чалавекам. Нават форма ягонага подпісу змянілася, літара *Н* замянілася на *М*. А тады ён быў загадчыкам кафедры эканамічнага ўніверсітэта, пастаянна падпісваў дакументы і нават меў нараканні ад прарэктара за такія дзівацтвы. Але Міколава адраджэнне ўжо нельга было спыніць.

З 1964 г. працоўная біяграфія Міколы Савіцкага звязана з Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэтам. Сюды ён прыйшоў пасля аспірантуры ў Маскве, дзе абараніў кандыдацкую дысертацыю па машыннай апрацоўцы эканамічнай інфармацыі, якая была ў гэтай галіне першай на Беларусі, зацверджанай ВАК СССР. У 1982 годзе атрымаў званне прафесара на кафедры інфарматыкі і вылічальнай тэхнікі, якой ён загадваў амаль 20 гадоў.

У 2009 годзе абраны правадзейным членам (акадэмікам) міжнароднай акадэміі навук Еўразіі.

Падрыхтаваў чатырох кандыдатаў навук. Аўтар больш за 100 навуковых прац агульным аб'ёмам 360 выд. арк. і шэрагу публіцыстычных артыкулаў па пытаннях адраджэння беларускай мовы і культуры.

У сваёй галіне першым у Беларусі стварыў комплекс навукова-метадычнага забеспячэння вучэбнай дысцыпліны "Вылічальныя машыны і праграмаванне" для эканамічных ВНУ. Аднайменны падручнік з грыфам Міністэрства адукацыі вытрымаў два выданні. Суаўтар першага навучальнага дапаможніка з грыфам курса "Машынная апрацоўка эканамічнай інфармацыі ў галінах народнай гаспадаркі". Выдаў падручнік для тэхнікумаў "Техника вычислений и механизация учета", з саюзным грыфам, які вытрымаў тры выданні. Аўтар "Руска-беларуска-англійскага слоўніка па інфарматыцы і вылічальнай тэхніцы" (1992 г.), вучэбных дапаможнікаў на беларускай мове па вучэбных прадметах: "Эканамічная інфарматыка і вылічальная тэхніка" (1996 г.), "Тэхналогіі арганізацыі, захоўвання і апрацоўкі звестак" (2000 г.), "Тлумачальнага слоўніка па інфарматыцы".

Спадар Мікола адным з першых у незалежнай Беларусі ў 1989 годзе пачаў выкладаць інфарматыку і вылічальную тэхніку па-беларуску.

Ягоны прыклад ў 90-я гады XX стагоддзя перанялі шматлікія выкладчыкі з розных галін ведаў.

Беларускамоўнае выкладанне інфарматыкі ва ўніверсітэце было спынена ў 2001 годзе, і з адзіным на той час беларускамоўным прафесарам на кафедры інфармацыйных тэхналогій Міколам Савіцкім не прадоўжылі кантракт. Пасля гэтага навукоўца не прыпыняе творчай працы над навучальна-метадычнай літаратурай, ён падрыхтаваў і надрукаваў за мяжой (у Расіі) два вучэбныя дапаможнікі для студэнтаў ВНУ у поўнай адпаведнасці з тыповымі праграмамі: "Технологии организации, хранения и обработки данных" (2001 г.) і з грыфам Мінадукацыі Расіі "Экономическая информатика" (2003, 2004 гг.).



*З унучкай Альжбетай.*

Мікола Савіцкі ў канцы 80-х гадоў актыўна ўліўся ў супольную плынь грамадскай працы па нацыянальным адраджэнні і з 8 лютага 1992 г. па 23 верасня 1997 г. узначальваў Менскую гарадскую раду ТБМ імя Ф. Скарыны, а сёння з'яўляецца сябрам Рэспубліканскай Рады ТБМ. На старонках ягонага жыцця прапісаны шматлікія ўдзелы ў з'ездах, мітынгах, шэсцях, канферэнцыях, круглых сталах. Тэматыка іх адзіная - беларускае жыццё.

Я пазнаёмілася з Міколам Савіцкім у пачатку 90-х на шматлікіх мітынгах, і мне надзвычай спадабаўся гэты чалавек, прыгожы, натхнёны, эмацыйны, запалены бунтарскай энергіяй беларускіх пераўтварэнняў. І разам з тым інтэлігентны, далікатны, чуллівы. Цяпер я ўжо ведаю, што гэтыя дзве палавінкі цэльнага характару - ад бацькоў. І вось ужо больш за 20 гадоў мы апантана робім агульную нацыянальную справу.



*На мітынгу за Адраджэнне, 1996 г.*

Камітэт Ушанавання Клуба "Спадчына" двойчы ганараваў Міколу Савіцкага за актыўны ўдзел у нацыянальным Адраджэнні і змаганне за родную мову: у 1997 г. памятным медалём з выявай "Пагоні", у 2003 г. - срэбным пярсцёнкам з выявай "Пагоні", асабістымі ініцыяламі "М" і "С" і надпісам "Жыве Беларусь" з уручэннем дыпломаў і занясеннем у Кнігу гонару "Рупліўцы твае, Беларусь".

Сям'я шчыра дапамагае спадару Міколу ў ягонай рупнасці. Жонка Глафіра, з якой, аспіранткай, ён пазнаёміўся на кафедры эканамічнага ўніверсітэта, цяпер працуе там жа прафесарам. Яна аўтар вялікай колькасці прац па эканамічным аналізе, якія карыстаюцца попытам на прасторах СНД, а ў пачатку 2000-х гадоў займала першыя месцы па рэйтынгу найбольш куплянных кніг. Як смяецца спадар Мікола, жонка яго абагнала ў навуцы. Яны з'яўляюцца аднадумцамі і на мітынгі хадзілі разам. А статус жонкі Савіцкага прыносіў і страты, і набыткі. Недзе ў аналах палітычнай гісторыі Беларусі заблудзіўся і не дайшоў да прафесаркі ордэн, якім збіраліся ўганараваць навукоўцу.

Дачка Насця таксама працуе ў эканоміцы, кандыдат эканамічных навук, падаравала бацькам трох цудоўных дзяўчынак - Альжбэту, Марыльку і Анэльку. І толькі адна думка засмучае дзеда і бабулю - гімназія, дзе вучацца ўнучкі, рускамоўная.

Калі я спытала, што змяніў бы спадар Мікола ў сваім жыцці, адгарнуўшы назад два дзесяцігоддзі, то ён прызнаўся, што вельмі шкадуе аб сваім познім (у 1988!) прыходзе ў беларушчыну. Бо хлопцы, яго сябры, добра напрацавалі на "Гарышчы", пакуль ён вучыўся ў аспірантуры ў Маскве, а некаторыя нават ахвяравалі жыццём. А ён позна падставіў ім плячо.

Вось гэтая характэрная рыса - дапамагчы, падставіць плячо, засланіць ад нягод, не баяцца цяжару, даглядаць і выхоўваць, якая была ўсвядомлена старэйшым у сям'і, стала разгортвацца ўжо ў прасторы цэлай краіны. Мікола Савіцкі ўзяў на сябе адказнасць за жыццё Беларусі.

І сёння, пераходзячы мяжу 9-га дзесятку, прафесар Мікола Савіцкі такі ж няўрымслівы, такі ж апантаны. Ён улюбёны ў класічную паэзію, асабліва ў творчасць Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Уладзіміра Караткевіча, а сучасную чытае ў часопісе "Дзеяслоў", які выпісвае. Трох ўнучак выхоўвае ў беларускім рэчышчы, чытае з імі часопісы "Вясёлка" і "Буся". Любіць мастацтва, сябруе з мастацкай суполкай "Пагоня". Яго можна ўбачыць у філармоніі і ў Оперным тэатры.

Летам і восенню ён збірае лясныя ягады ў беларускіх лясах, а ў грыбны сезон - грыбы. У купальны сезон яднаецца з вадой беларускіх азёр і вадаёмаў ранкам і надвячоркам. На лецішчы ў Зялёным зліваецца, як чалавек з глыбокімі сялянскімі каранямі, з садам і агародам. Узімку барануе лыжамі снегавыя горкі родных прастораў. У мінулую зіму асабісты нарматыў быў 5 км. На адпачынку не адстае ад унучак, калі праводзяцца спартыўныя спаборніцтвы ці гульні: скача на хадулях, гуляе ў мяч. Ён сябруе з кампутарам, мае сваю электронную пошту. Ён такі класны, дзядуля Мікола!

Мікола Савіцкі ўдзячны часу, які даў яму магчымасць удала далучыцца да Асобаў Беларусі - Ніла Гілевіча, Васіля Быкава, Генадзя Бураўкіна, Радзіма Гарэцкага - і будаваць з імі, як калісьці сваю хату, агульны дом для ўсіх землякоў, незалежную Беларусь! А будаванне гэтага Дома немагчыма закончыць, бо кожнае пакаленне ўмуроўвае сваю цаглінку. Так і Мікола Савіцкі - адмысловы майстар-муляр - на працягу двух стагоддзяў умацоўвае сцены нашага нацыянальнага дома, спрытна кладзе цаглінку прасветлай любові да свайго краю, сваёй мовы і культуры. І шчыра радуецца, што сваю кельму, атрыманую ад роду Савіцкіх, ён перадасць сваёй дачцэ і ўнучкам, і яны гэтак жа ганарова панясуць яе ў вечнасць. З днём нараджэння, шаноўны спадар Мікола!

*Людміла Дзіцэвіч,*
*сябра рэспубліканскай Рады ГА ТБМ імя Ф. Скарыны.*

# Памёр Генадзь Грушавы



28 студзеня памёр грамадскі дзеяч, заснавальнік дабрачыннага фонду "Дзецям Чарнобылю", доктар філасофскіх навук, прафесар, дэпутат Вярхоўнага Савету 12-га і 13-га скліканняў **Генадзь Грушавы**. У апошнія гады ён цяжка хварэў - у яго быў рак крыві. Яму было 63 гады.

Генадзь Грушавы нарадзіўся ў Менску 24 ліпеня 1950 года. Скончыў школу №50, якая спецыялізавалася на фізіцы і матэматыцы, але паступіў на філасофскі факультэт БДУ. У1975-м абараніў кандыдацкую, а пазней і доктарскую дысертацыю па філасофіі.

Грушавы прыйшоў у палітыку на хвалі нацыянальнага адраджэння. Быў адным з арганізатараў і актыўных удзельнікаў Беларускага народнага фронту "Адраджэньне". У той жа час заснаваў і дабрачынны фонд "Дзецям Чарнобылю". Узгадвае дырэктар Беларускай службы Радыё Свабода Аляксандар Лукашук:

- Генадзь уражваў тым, што быў чалавекам дзеяння і чалавекам выніку. Яго палітычныя погляды і прыхільнасці былі выразныя і зразумелыя - адраджэнне, незалежнасць, дэмакратыя. Яго дзейнасць была ашаламляльнай - здавалася, ён замяняў аднačasна Міністэрства аховы здароўя і Міністэрства замежных спраў, і Чарнобыльскі камітэт на дадатак. Плюс, быў амбасадарам Беларусі аднačasна ў некалькіх еўрапейскіх краінах. Гэта прыклад і напамін, якога калібру і дзяржаўнага таленту людзі былі ў апазіцыі.

Прафесар, доктар медычных навук Юры Бандажэўскі адзначае, што многія медыкі дагэтуль не зразумелі маштабу чарнобыльскай катастрофы, а гуманітарый, філосаф Генадзь Грушавы здолеў звярнуць увагу Еўропы на гэтую праблему:

- Мяркуючы па размаху спраў, якія здолеў, паспеў ажыццявіць за свае 63 гады (а гэта няшмат) Генадзь Грушавы - ён паспеў стаць навукоўцам, доктарам філасофскіх навук, і зрабіў вялікую справу, арганізаваўшы сістэму дапамогі не толькі дзецям Чарнобылю, але і сем'ям, што пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы. І звярнуў увагу Еўропы на неабходнасць аказання такой дапамогі. Яшчэ раз падкрэсліваю: ён быў навуковец-філосаф і здолеў зразумець, наколькі важная такая дапамога. Вялікая колькасць медыкаў гэтага не разумее, а чалавек вялікае, шчодрае сэрца меў і дапамагаў гэтым людзям.

За час сваёй працы фонд "Дзецям Чарнобылю", які ачольваў Генадзь Грушавы, дапамог больш як 2 мільёнам жыхароў Беларусі. 160 тысяч дзяцей былі накіраваныя на рэабілітацыю і аздараўленне ў шмат якія краіны свету.

Журналіст і перакладчык Генадзь Кеснер працаваў разам з Генадзем Грушавым у фондзе "Дзецям Чарнобылю". Не гледзячы на розніцу ва ўзросце, яны шчыра сябравалі. У апошнія гады жыцця спадара Грушавога Генадзь Кеснер дапамагаў яму ў побыце:

- Скончылася насамрэч цэлая эпоха ў жыцці беларускай грамадзянскай супольнасці, калі пафасна казаць.



*Генадзь Грушавы з чарнобыльскімі дзецьмі*

Таму што Генадзь Грушавы быў заснавальнікам, ініцыятарам стварэння, бадай, самай велічэзнай у Еўропе сеткі дапамогі ахвярам чарнобыльскай катастрофы. Гэта быў вельмі разумны, адукаваны, мэтанакіраваны, з геніяльным розумам і - галоўнае - мужны чалавек. Ён 5 гадоў таму даведаўся, што ў яго цяжкая хвароба - рак крыві. І нават некаторыя лекары адводзілі яму два-тры месяцы. Але ягоная мужнасць, прага жыцця дапамаглі яму працягнуць пяць гадоў.

Пахавалі Генадзя Грушавога 31 студзеня.

Вечная памяць.

---

Сакратарыят ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" выказвае спачуванні першаму намесніку старшыні ТБМ **Алене Анісім** у сувязі з напаткаўшым яе горам - смерцю свякрухі.
Са святымі супакой.

---

Лідская гарадская арганізацыя ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" выказвае спачуванні актыўнаму сябру ТБМ **Сяргею Чарняку** ў сувязі з напаткаўшым яго горам - смерцю маці.
Зямля ёй - пухам, а душы - неба.



## Заява Рады ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны "

Мінск 26 студзеня 2014 г.

Міністэрства культуры Беларусі прыняло загад № 3 ад 4 студзеня 2014 года аб ліквідацыі Літаратурнага музея Максіма Багдановіча як самастойнай юрыдычнай адзінкі і пераўтварэнні яго ў малазначны філіял, ствараючы гэтым небяспечны прэцэдэнт у айчыннай музейнай справе.

Кожны адукаваны грамадзянін Беларусі добра разумее, што Максім Багдановіч разам з Янкам Купалам і Якубам Коласам - гэта тры зоркі беларускай паэзіі, тры асобы, якія аказалі вялікі ўплыў на станаўленне беларускай нацыі і нашай дзяржаўнасці, вызначылі галоўныя кірункі развіцця нашай літаратуры.

Мы выказваем вялікую ўдзячнасць усім грамадзянам нашай краіны, якія напрыканцы 2013 г. сваімі лістамі ў Міністэрства культуры і іншымі дзеяннямі спынілі гвалтоўную ліквідацыю добра вядомага ў свеце музея. Лісты даюць плён. Таму мы заклікаем усіх грамадзян Беларусі і суайчыннікаў за мяжой звяртацца непасрэдна да Прэм'ер-міністра нашай краіны М.У. Мясніковіча з настойлівай просьбай захаваць Літаратурны музей імя Максіма Багдановіча ў якасці самастойнай юрыдычнай асобы.

*Рада ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"*
*26 студзеня 2014 г.*

Прэм'ер-міністру Рэспублікі Беларусь
М.У. Мясніковічу
вул. Савецкая, 11
220010
Дом Ураду, г. Мінск

Мы, грамадзяне Рэспублікі Беларусь, глыбока занепакоены рашэннем Міністэрства культуры Беларусі (загад № 3 ад 04.01. 2014 г.) аб ліквідацыі Літаратурнага музея імя Максіма Багдановіча.

Кожны адукаваны грамадзянін Беларусі добра разумее, што Максім Багдановіч разам з Янкам Купалам і Якубам Коласам - гэта тры зоркі беларускай паэзіі, тры асобы, якія аказалі вялікі ўплыў на станаўленне беларускай нацыі і нашай дзяржаўнасці, вызначылі галоўныя кірункі развіцця нашай літаратуры.

У сувязі з гэтым просіць Вас адмяніць непрадуманае рашэнне і даць магчымасць функцыянаваць Літаратурнаму музею імя Максіма Багдановіча як юрыдычна самастойнай паўнавартаснай музейнай адзінцы.

| № п/п | Прозвішча, імя, імя па бацьку | Адрас (месца жыхарства) | Дата | Подпіс |
|---|---|---|---|---|
| 1. | | | | |
| 2. | | | | |
| 3. | | | | |
| 4. | | | | |
| 5. | | | | |
| 6. | | | | |

# Віншуем сяброў ТБМ, якія нарадзіліся ў лютым

Абраменка Эдуард Якаўлевіч
Амурак Вольга Іванаўна
Андруцэвіч Станіслаў Вячасл.
Ануфрыенка Валянціна
Аскерка Валянціна Валянцін.
Асташонак Людміла
Аўкштулевіч Тамара Яўген.
Аўсеенкава Кацярына Валер.
Ахрамчук Віктар Георгіевіч
Бабічаў Антон Вячаслававіч
Багдановіч Эвеліна Паўлаўна
Багдзевіч А.І.
Баравік Марыя Якаўлеўна
Бардош Іна Анатольеўна
Барысік Мікалай
Бекешка Вікторыя Сямёнаўна
Бельчына Алеся Рыгораўна
Блажэвіч Ірына Уладзіміраўна
Богуш Мікалай
Болбас Вадзім Іванавіч
Бубен Уладзімір
Бублікава Лілія
Бубновіч Іна Іванаўна
Будзянок Аляксей Пятровіч
Бузо Алег Леанідавіч
Бязрукая Аксана Юр'еўна
Бяліста Марына
Бярэзіна Надзея Уладзіміраўна
Вабішчэвіч Тацяна Іванаўна
Валочка Святлана
Васючэнка Пятро Васільевіч
Ваўрышук Наталля Юр'еўна
Вашкевіч Марына
Верхачуб Уладзімір Васільевіч
Войткун Галіна Вотэхаўна
Врублеўская Наталля Вікенц.
Вышадкевіч Наталля Алегаўна
Вярцейка Алесь
Галякевіч Яўген Ціханавіч
Гаравы Леанід Антонавіч
Гарбацэвіч Валеры Аляксанд.
Гарнастай Алена
Гарэлава Ганна
Гарэцкі Іосіф Аляксандравіч
Гільвей Вацлаў
Голуб Аксана Уладзіміраўна
Грыгор'ева Жанна Іосіфаўна
Грынь Сяргей Іванавіч
Грышан Мікола Паўлавіч
Губарэвіч Настасся Уладзім.
Губарэвіч Юры Іванавіч
Гуцалік Галіна
Давідовіч Аляксандр Анатол.
Дамашэвіч Уладзімір Максім.
Даніленка Сяргей
Дземідовіч Вольга Валер'еўна
Дзенісевіч Павел Алегавіч
Дзеружынскі Аввяр'ян Авяр.
Дзмітручына Ганна Мікал.
Дзмітрыеў Віктар Аляксандр.
Дзямідка Генадзь Руфінавіч
Добыш Генадзь Канстанцінавіч
Драгун Павел Якаўлевіч
Драздова Марыя Аркадзьеўна
Драка Альбіна
Дубіцкі Віктар Сымонавіч
Емяльянава Аляксандра Вікт.
Жаўняровіч Ганна Дзмітр.
Жук Мікалай
Жукоўская Л. С.
Забаўская Святлана
Засім Тамара
Заяц Генадзь Мікалаевіч
Іваніцкі Павел Яўгенавіч
Ігаценка М.І.
Іжохіна Надзея Іванаўна
Іжохіна Тацяна Мікалаеўна
Калядзінскі Лявон Уладзімір.
Калядка Тацяна Рыгораўна
Камеснікавіч Вольга
Камінская Аліна Аляксандр.
Кананович Ірына
Канашэнка Рыгор
Канойка Ігар
Каноў Уладзіслаў Васільевіч
Карбановіч Сяргей
Карнеева Алена Віктараўна
Карповіч Лявон Эдвардавіч
Касаржэўскі Віктар Іванавіч
Касцючык Валянціна Міхайл.
Качура Яўген
Кірэеў Антось Мікалаевіч
Кішкурна Уладзімір Герасім.
Клімовіч Наталля
Клімуць Лада
Клімуць Станіслава
Клімчык Генадзь
Кляшчонак Алена
Ковель Уладзімір
Коласава Лілея Міхайлаўна
Корзан Ала Вікеньцеўна
Краснабаеў Артур Мікалаевіч
Красоўскі Сяргей Уладзімір.
Краўчанка Арцём Аляксанд.
Крук Алена
Крываногава Святлана
Крыванос Алеся
Крывапуст Дзмітры Валер.
Крысюк Людміла
Крэйніна Людміла Міхайлаўна
Кузьмянкова Наталля Алег.
Купрацэвіч Адам Прохаравіч
Курыленка Юлія
Кур'ян Астап Андрэевіч
Кухаронак Аляксандр Дзміт.
Кухарэнка Настасся
Кучаравенка Паліна Уладзім.
Кучынскі Віталь Паўлавіч
Лабада Анастасія
Лагодская Ірына
Ладыга Сяргей Паўлавіч
Лазарэвіч Аляксандр
Лашкоўская Рэгіна В.
Леванкова Алёна Аляксееўна
Ліс Тамара
Літаш Вольга
Літвінава Людміла Сямёнаўна
Лопух Тацяна Уладзіміраўна
Лукашонак Тамара
Лукашэвіч Тамара Георгіеўна
Лукашэвіч Яўген Фёдаравіч
Лыч Леанід Міхайлавіч
Лявончыкава Дз.
Лягуцкі Анатоль
Ляшчынскі Іван Купрыянавіч
Мазынскі Валер Яўгенавіч
Макарэвіч Алесь
Макарэвіч Аляксандр Васіл.
Макрыцкая Ніна Міхайлаўна
Маліноўская Тацяна Рыгор.
Марачкін Ігар Аляксеевіч
Мартынаў Мікола Рыгоравіч
Маслюкова Алена Аляксанд.
Матавілава Кацярына Ігараўна
Матэлёнак Леанід Аляксандр.
Машнюк Тацяна Аляксандр.
Мінько Жанна
Мірановіч Міхаіл
Місуна Раман
Мішчанкова Юлія Анатол.
Мудроў Максім
Мурашка Ігар
Мянькоў Юры Уладзіміравіч
Мяцельскі Мікалай Міхайл.
Навумовіч Іван Мікалаевіч
Надокунева Ірына
Наскоў Міхаіл Андрэевіч
Нікіценка Тацяна Пятроўна
Нікіцін Віталь
Новікава Яна
Нялепа В.
Падашвялёў Дзмітры Алякс.
Памецька Ніна Казіміраўна
Панізоўцаў Сямён Сямёнавіч
Парашчанка Яўгенія Уладзім.
Парфёнаў Аляксандр Іванавіч
Патоцкая Тамара
Паўкштэла Сюзана Алегаўна
Петрашкевіч Часлава
Петрушкевіч Ала Мікалаеўна
Піўко Юры
Плітко Віктар Васільевіч
Праташчык Людміла Віктар.
Працко Святлана Аляксандр.
Прохарскі Аляксей
Прыгожын Аркадзь Ілліч
Пташнік Ларыса
Пухоўская Тацяна Фёдараўна
Пяткевіч Марына
Пяткевіч Уладзімір Сцяпан.
Пятровіч Аксана Іванаўна
Пятроўскі Аляксандр
Ражко Яўген Яўгенавіч
Ражкоў Леанід Мікалаевіч
Райчонак Аляксандр Алегавіч
Ракевіч Мікалай
Раманоўская Вольга Парфір.
Раманцэвіч Валянціна Карл.
Рачко Мікалай
Рудніцкая Яніна
Ружыцкі Павел Аляксандравіч
Русак Андрэй
Рымач Мікалай Мікалаевіч
Рымко Вольга
Рысявец Раіса Рыгораўна
Савасцеева Людміла
Савіцкі Мікалай Іванавіч
Садоўская Яна Францаўна
Сакалова Алена Георгіеўна
Сакалоўскі Віктар Міхайлавіч
Саколка Анастасія Вацлаваўна
Сарока Андрэй Іванавіч
Сахута Яўген Міхайлавіч
Свістун Сяргей
Серада Алеся Сяргееўна
Сідарук Лілея Мікалаеўна
Сіманёнак Людміла Іванаўна
Сіпліевіна Жана Сямёнаўна
Стадуб Іван Дзям'янавіч
Старавойтаў Сяргей Мікал.
Старжынскі Андрэй
Стома Анастасія
Страчук Аляксандр Сяргеевіч
Строганаў Вадзім Вячаслав.
Стэпановіч Язэп Міхайлавіч
Сугойдзь-Зубовіч Кацярына
Сучок Міхась
Сцепанішчава Вера Андрэеўна
Сцефановіч Галіна Іванаўна
Сцяпанава Зоя
Сырасек Васіль Іванавіч
Сямашка Сяргей
Сяменас Людміла Францаўна
Сянкевіч Мікалай Іванавіч
Тарэлка Міхаіл Уладзіміравіч
Трубкін Аляксей Анатольевіч
Тулько Ірына
Тулько Кацярына
Туровіч Алесь
Тычына Міхаіл Аляксандравіч
Тэрэз Віктар
Утохіна Наталля
Ушакоў Сяргей Аляксандравіч
Філюта Ніна Рыгораўна
Хадановіч Яўген
Хадневіч Васіль
Хацкевіч Анатоль Канстанцін.
Хмянчук Марыя Іванаўна
Ходар Аляксандр
Цімохін Леанід Аляксандравіч
Ціткоўскі Ігар Адамавіч
Цішакіна Ірына Пятроўна
Цэдрык Ганна Васільеўна
Цярэнцьеў Зміцер Ігаравіч
Чарнышова Зоя
Чарняўскі Сцяпан
Чыбісаў Мікола
Чылек Ніна Аляксандраўна
Чычкан Фёдар Уладзіміравіч
Шалкевіч Віктар Антонавіч
Шаўчук Аляксандр Мікал.
Шашута Алесь
Швайко Валянціна Рыгораўна
Шпакаў Фелікс
Шундрык Георг
Шчарбакоў Ян Сяргеевіч
Шчасная Марыя
Шырвель Андрэй Раманавіч
Язукевіч Ганна Чаславаўна
Яканюк Данат Лявонавіч
Янушэўскі Віктар Пятровіч
Ярмусік Эдмунд Станіслававіч
Ятусевіч Сяргей Станіслававіч
Яшчэня Ірына
Яшын Дзмітры Іванавіч

# Рыцар нацыянальнай ідэі

## Леаніду Лычу - 85

**ЛЫЧ Леанід Міхайлавіч** (08.02 1929 г., м. Магільнае Уздзенскага р-на Менскай вобл.), доктар гістарычных навук, прафесар. Скончыў Башкірскі педагагічны інстытут (1957). Працаваў настаўнікам. З 1962 г. - у Інстытуце гісторыі АН БССР. Даследаваў пытанні сацыяльна-класавых адносін у савецкі час, гісторыю беларускай культуры, моўную палітыку ў Беларусі XIX - XX стст., міжнацыянальныя адносіны ў Беларусі ў XX ст.

Адзін з аўтараў кніг: "Гісторыя Беларускай ССР", "Гісторыя рабочага класа БССР", "Гісторыя Мінска"; аўтар манаграфій, сярод якіх "Беларуская нацыя і мова" (1994), "Назвы зямлі беларускай" (1994), "Гісторыя культуры Беларусі" (1996); аўтар кнігі "Нарысы гісторыі Беларусі" (1995). Старшыня Тапанімічнай камісіі пры Прэзідыюме Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь (1992 - 1996).

За самаахвярную працу ў рэчышчы грамадскай і навукова-асветніцкай дзейнасці на карысць нашай Бацькаўшчыны Камітэтам Ушанавання ганараваны ордэнам "Гонар Айчыны" (25.03.1997), Кубкам "Спадчыны" з выявай Герба "Пагоня" (08.02.1992) і адпаведнымі дыпломамі. Занесены ў Кнігу гонару "Рупліўцы твае, Беларусь".

*Леанід Лыч*




### Разуменне Нацыянальнай ідэі

Асноўным стрыжнем Беларускай нацыянальнай ідэі з'яўляецца ўсё ж такі этнакультурны фактар. Бо народ можа быць палітычна незалежным і эканамічна развітым, але калі ён па нейкіх прычынах збочвае з свайго нацыянальнага шляху, то ў яго наўпрост няма будучыні. Вось якраз сёння гэта Беларусь і перажывае: мы маем незалежную дзяржаву і застаемся біялагічна беларусамі, але пануючай культурай з'яўляецца руская. Для многіх людзей слова *беларус* гэта пусты гук, бо каб быць беларусам трэба і размаўляць пабеларуску і шанаваць беларускую культуру.

Вызначэннем самаго панятку "нацыянальная ідэя" навукоўцы і мысляры займаюцца шмат часу. Мне не даводзілася сустракацца з такім паняткам, з якім асабіста я мог бы цалкам пагадзіцца. І гэта да лепшага. Бо пры пры фармулёўцы нацыянальнай ідэі трэба зыходзіць з канкрэтных рэаліяў канкрэтнай краіны: тое, што падыходзіць адным народам, далёка не заўжды падыходзіць іншым.

На маю думку беларуская нацыянальная ідэя - гэта сістэма поглядаў накіраваных на выратаванне беларусаў ад русіфікацыі і пабудову беларускага культурна-моўнага жыцця. А таксама сістэма практычных мерапрыемстваў дзяржавы па ажыццяўленні гэтых тэарэтычных ідэй на практыцы. Гісторыя ведае такія прыклады.

### Беларусі патрэбны нацыяналізм

Беларусі патрэбны нацыяналізм, ды яшчэ і які. Але гэта павінен быць нацыяналізм не радыкальнага ці экспансійнага характару, а памяркоўны. Бо толькі паступовым укараненнем усяго беларускага можна схіліць беларусаў да ўдзелу ў нацыянальным жыцці. Гісторыя паказвае, што асіміляваныя народы часта трымаюцца засвоенай культуры значна больш, чым самі каланізатары. Але бывае і па-іншаму: у нас ёсць рускія людзі, асабліва з інтэлігенцыі, якія з большай прыхільнасцю ставяцца да ўсяго беларускага, чым самі беларусы.

### Пра славянаў

Славянскія краіны заклапочаны праблемамі нацыянальна-культурнага жыцця на Беларусі. Прадстаўнікі інтэлегенцыі з розных славянскіх краін, прыязджаючы сюды, занепакоены адсутнасцю нацыянальнага жыцця.

Я зайздрошчу славянскім краінам, якія ўзніклі на мяжы 1980-90-х гг. Як прыклад Югаславія, якая распалася на шэсць краін, і ў кожнай краіне ў аснове нацыянальнага жыцця ляжаць нацыянальныя традыцы. Дзякуючы распаду букет культур, які вельмі важны для Еўропы, аднавіўся і ўзбагаціўся. Чарнагорыя, Харватыя, Боснія, Македонія развіваюцца ў сваім нацыянальна-культурным рэчышчы. А чэхі, напрыклад, не толькі не замінаюць славакам развівацца, але ўсяляк садзейнічаюць гэтаму працэсу, раскрываючы свае архівы, дапамагаючы навукоўцам даследваць культурнае жыццё славакаў у перыяд існавання Чэхаславакіі. Мы ж такой падтрымкі ад Масквы не маем.

### Пра ірландскі прыклад

Можна лічыць сябе беларусам, але быць носьбітам рускай культуры і размаўляць па-руску. Але гэта беларус непаўнавартасны, гэта беларус калека, хворы чалавек. Беларусам можа быць толькі той, хто у сваёй сям'і, у грамадскіх месцах трымаецца сваіх нацыянальна-культурных традыцый. Тым больш, што цяпер носьбітам беларускай культуры значна лягчэй, чым пры існаванні СССР. Я пачаў карыстацца беларускай мовай ў грамадскіх месцах у 1966 г. Людзі ў натоўпе пазіралі на мяне як на дзівака. Цяпер, калі чалавек правільна і прыгожа размаўляе па-беларуску, то паказваць пальцам на яго могуць толькі п'яніцы ды маргіналы.

### Пра тэорыю і практыку

У міжваенны час урадам БССР быў абраны правільны шлях беларусізацыі. Былі распрацаваны тэарэтычныя і практычныя асновы нацыянальна-культурнага Адраджэння. У той час практычныя захады адносна ужытку беларускай мовы і культуры былі праведзены на вышэйшым узроўні, бо калі ў канцы 1980-х калі пачалося нацыянальна-культурнае Адраджэнне, беларускія грамадскія і палітычныя дзеячы дасканала вывучалі досвед гэтых мерапрыемстваў.

Аднак, для ажыццяўлення Адраджэння сілаў аднаго Беларускага Народнага Фронту было не дастаткова, найперш гэта было звязана з кадравым пытаннем. Але тут падключылася дзяржава, і многае ў яе атрымалася лепш, чым у грамадскіх арганізацыяў і палітычных партыяў. Самай вялікай заваёвай на той момант было прыняцце 26 студзеня 1990 г. Закона аб дзяржаўнай мове, які надаў статус беларускай мове адзінай дзяржаўнай ў краіне. Больш прыняцця закону за ўсё XX ст. не было: ні да вайны, ні па час вайны, ні тым больш пасля яе.

### Пра кнігі

За папярэднія пяць гадоў выйшлі з друку наступныя мае кнігі:

1. Міжнацыянальныя дачыненні на Беларусі (верасень 1943 - кастрычнік 1964 г).
2. Беларуская нацыянальная ідэя: тэарэтычны і практычны аспекты.
3. Русіфікацыя.
4. Культура Беларуси: от самобытной к денационализованной.
5. Уніяцкая царква Беларусі: этнакультурны аспект.
6. 23 параграфы для "Гісторыі Беларусі" ў шасці тамах.
7. Варыяцыі на нацыянальную тэму.
8. Магільнае ў часы нямецкай акупацыі (чэрвень 1941 - ліпень 1944 г.). Успаміны.
9. Нацыянальна - культурнае жыццё Беларусі на тэрыторыі функцыянавання акупацыйнага рэжыму (чэрвень 1941 - ліпень 1944 г.).
10. Яўрэйская культура Беларусі - яе агульны духоўны набытак.
11. Рускі прафесар на ніве беларускага нацыянальнага адраджэння.
12. Нацыянальна - культурная аўтаномія беларусаў.
13. Краязнаўства ў кантэксце сучаснага нацыянальна - культурнага жыцця Беларусі.

*Паводле К. Еліча.*



Алесь Бяляцкі

# СЦЯГА ПАЭТА

## Штрыхі да творчага партрэта паэта Эдуарда Акуліна

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

X.

Вобраз Беларусі як "забранага краю" вядомы нам з творчасці Янкі Купалы. Забраны край - краіна пад акупацыяй, краіна без свабоды і незалежнасці. Такой маляваў Беларусь Янка Купала пад уладаю Расійскай імперыі.

Эдуард Акулін аднаўляе гэты вобраз на сучасным этапе гістарычнага развіцця Беларусі. Вынікі ягонага пераасэнсавання несуцяшальныя. Беларусь ізноў, ці - усё яшчэ - "забраная краіна", дзе няма месца для сваёй гісторыі, дзе гіне беларуская мова - душа народа, дзе няма волі.

Адмену дзяржаўнасці беларускай мовы, пасіўную згоду беларусаў з адмовай ад беларусізацыі, з разбурэннем беларускамоўнага школьніцтва, якое актыўна развівалася ў першай палове 90-х гадоў, паэт разумее і адчувае як нацыянальную катастрофу.

Драматычная сітуацыя адкату ад нацыянальнатворчай дзяржавы і вяртанне ў постсавецкую дэпрэсіўную рэчаіснасць выклікае ў Эдуарда Акуліна шмат пачуццяў. З аднаго боку, Беларусь стала незалежнай дзяржавай. Здаецца, збылася недасяжная мара некалькіх папярэдніх пакаленняў свядомых беларусаў, за якую дзясяткі тысяч людзей змагаліся і загінулі, ці былі рассеяны па ўсім свеце, так і не ўбачыўшы станоўчага выніку свайго змагання. З другога боку, большасць беларусаў, на жаль, не ўсвядоміла каштоўнасці такіх паняткаў, як - *незалежнасць* і *свабода*. Далася ў знакі саветызацыя і русіфікацыя, якія актыўна праводзіліся ў Беларусі цягам дзесяцігоддзяў. Ва ўладзе апынуліся людзі з вельмі эклектычнымі грамадска-палітычнымі поглядамі, з постсавецкім менталітэтам, для якіх нацыянальныя каштоўнасці, беларуская ідэя мала што значылі. Якія, больш за тое, варожа ставіліся да праяваў нацыянальнага адраджэння, што занялося ў канцы 80-х і пачатку 90-х гадоў. Яны ізноў абрынулі краіну ў звыклае рэчышча постасавецкіх ідэалагемаў.

Беларусь стала незалежнай. Але зусім не такой, якой яна мусіла быць згодна з уяўленнямі паэта. І яна выклікала ў яго супярэчлівыя пачуцці. Радзіма ў свядомасці паэта выглядае выклятай зямлёй, дзе ўсё змяшалася - і самае высакароднае, і самае нізкае:

*Там Радзіма - мая Юдоль,*
*пекла з Богам і выраў з чортам.*
(Я хацеў бы пісаць,
як жыву, с. 181/19-20)

Трагічны і жалобны спеў, праўдзівы старажытны рэлігійны плач- рэнас льецца з-пад пяра паэта:

*О, Беларусь - аблічкам Божай маці -*
*сыноў сваіх, што прадалі Агмень,*
*дзе моц бярэш,*
*каб гнеўна не праклясці,*
*дзе слёз бярэш,*
*каб блаславіць з калень...*
(О, Беларусь - аблічкам
Божай маці, с. 183/1-4)

Што можа быць большай жалобаю за адмову ад родавага Агменю, у горычы ўсклікае паэт.

Эдуард Акулін не можа даравацьзрады нацыянальным ідэалам. Прадажнікі заслугоўваюць нянавісць і пагарду. У парыве творчага адчаю ён прамаўляе:

*У ценю ад чарнобыльскага крыжа*
*іудаў крык параніў цішыню...*
*Даруй, Радзіма, слова "ненавіджу",*
*што сёння прамаўляю ўпершыню.*
(О, Беларусь - аблічкам
Божай маці, с. 183/5-8)

Каму адрасаваныя гэтыя словы, толькі сляпым і бяспамятным "манкуртам", ці ўсё ж усім беларусам, кожнаму з нас, з якіх і складаецца такое ўсеабдымнае і зборнае паняцце як Радзіма? Усе мы вінаваты ў тым, што адбываецца з Беларуссю. У яе бедах і заняпадзе ёсць віна кожнага з нас, падводзіць паэт пад сваімі развагамі такую несуцяшальную выснову. Чарнобыльскую катастрофу Эдуард Акулін успрымае як Божую кару для беларусаў. Яшчэ за больш страшную кару народу паэт лічыць духоўны Чарнобыль. Адсутнасць духоўных ідэалаў, нацыянальнага стрыжня прывядзе да знікнення беларусаў як народа, перакананы паэт. Духоўнае ж знікненне раўназначна фізічнай смерці:

*Кожны першы - такую кару*
*Бог прыдумаў майму народу...*

*За бяспамяцтва, за бязвер'е,*
*за святую святыню - Мову*
*паміраць будзе кожны першы -*
*першы з тых, хто абразіў Слова...*
(Балада пра кожнага
першага, с. 242/15-22)

Хваля беларускага адраджэння, якая ўзнялася напачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя, у сярэдзіне 90-х захлынулася. Былі здабыткі, але і былі расчараванні, якія асабліва горка выглядалі ў параўнанні з нацыянальна-культурным адраджэннем нашых суседзяў, якія таксама вызваліліся з "турмы народаў", з Савецкага Саюзу і пайшлі па шляху адбудовы ўласнай нацыянальнай тоеснасці.

Беларуская нацыянальная ідэя пацярпела часовую паразу. Яна не стала дзяржаватворчай і была адкінутая на арбіту па-за дзяржаўнага існавання і развіцця. Асабліва балюча гэты адкат перажываўся ў другой палове 90-х гадоў. Паэт шукае духоўны падмурак, які б дазволіў усё ж узняцца і ісці далей:

*Шукаю Радзіму*
*скрозь леты і зімы -*
*нідзе яе не знаходжу.*

*Шукаю Радзіму -*
*хай нават знайсці мне -*
*слязіну на дне гора.*
(Шлях, с. 185/1-3,
13-15)

Трывалае адчуванне Радзімы надае чалавеку ўпэўненасці і спакою. Без яго немагчымае нармальнае існаванне чалавека, так уяўляецца паэту, калі ён зазірае сабе ў душу. Пошукі Радзімы, якая, здавалася б, была знойдзеная, а затым страчаная ізноў, працягваюцца. Яны важныя і неабходныя для спасціжэння самога сябе:

*На якім жа шляху-дарозе*
*мне Радзіму сваю шукаць,*
*каб я быў там "як суць па Бозе", -*
*як Скарына любіў казаць.*
(Па дарозе "Масква-
Варшава", с. 206/9-12)

Нягледзячы на ўсе расчараванні і паразы ў грамадскім жыцці, Эдуард Акулін, тым не менш, выбіраецца з прорвы духоўнага крызісу. Ён разумее, што наперадзе ўсіх беларусаў і яго асабіста чакае доўгі і цяжкі шлях барацьбы за Беларусь. У вершах паэта з новай сілаю і энергіяй пачынаюць гучаць уваскрослыя матывы барацьбы і супраціву. Гэтаму прысвечаны адзін з лепшых, на мой погляд, твораў паэта "Балада пра рыцара Здрады". У ім адчуваюцца і старажытны славянскі рытм, і сярэдневяковыя еўрапейскія матывы рыцарскіх баладаў, і згадкі пра старажытныя легенды пра чорнага рыцара, і алюзіі з караткевічым "Дзікім паляваннем караля Стаха", і з чорнай кавалькадаю Воланда ў "Майстры і Маргарыце" М. Булгакава. Паэт выпусціў цэлы пук стрэлаў-асацыяцыяў, якія паляцелі ў розныя бакі нашай свядомасці. Трывожнае водгулле змагання дабра і зла, якое разыгралася на беларускай зямлі, барацьба ідэяў, змагання духа наскрозь пранізваюць баладу.

Рыцар Здрады пануе ў Беларусі: "І глыбей за магілу ноч - па-над Краем" (с. 240/11-12).

*Разбураныя святыні,*
*прыгнечаны народ:*
*Растапталі, змяшалі ў бруд -*
*жыта ў полі...*
*Ды маўчыць спахмурнелы люд -*
*знаць Юдоля.*

*Расчыняе слухмяна Храм*
*перад зграяй.*
*І ўязджае ў бажніцу Хам -*
*як у стайню...*
(Балада пра рыцара
Здрады, с. 240/13-20)

Але ў баладзе няма суцэльнага песімізму. А ёсць моцная хваля нязгоды і супраціву, ёсць адчуванне доўгага і зацятага змагання:

*Сцеражыся, шалёны пёс, -*
*гніся нізка.*
*Срэбны вершнік ляціць наўпрост -*
*блізка-блізка...*
(Балада пра рыцара
Здрады, с. 240/25-28)

Паэт інтэнсіўна асэнсоўвае тыя падзеі, якія адбыліся ў апошнія гады тысячагоддзя. І пачуцці расчаравання і песімізму саступаюць матывам упартага супраціву. Эдуард Акулін знаходзіць сакральны і духоўны сімвал Беларусі. Полацкаму Сафійскаму сабору прысвячаецца верш "Сафія":

*У Полацку - на покуце Радзімы*
*цнатлівая і гордая стаіш...*
*Анёлаў пёркі - пухам тапаліным -*
*як вэлюм на раскрыленым крыжы.*
(Сафія, с. 231/1-4)

У сакральных помніках беларускай мінуўшчыны паэту бачыцца аснова, агмень беларускага духу, які трэба ахоўваць і зберагаць. Полацкая Сафія ў свой час была пабудаваная як сімвал магутнасці і незалежнасці Полацкага княства, першай беларускай джяржавы. Паэт вобразна звяртаецца да полацкай Сафіі, бо пакуль існуе гэтая беларуская святыня, бачыцца паэту, будзе існаваць і беларускі незалежны дух нашай дзяржавы:

*Сафія - крывічаначка-нявеста,*
*свой гонар ад чужынцаў беражы.*
(Сафія, с. 231/9-10)

Паэт у марах бачыць шлях да "сваёй" Беларусі. Сімваламі вольнай зямлі для паэта з'яўляюцца вольны птах і родная песня:

*Вольны птах залаты*
*па-над вольнай зямлёй*
*з роднай песняй лунае ў згодзе...*
(Сон, /10-12)

Каб пераадолець, прамінуць гэты шлях, мяркуе паэт, працей было б заснуць "на паўстагоддзя". Але гэта ў марах. А ў рэчаіснасці трэба змагацца, пакутаваць, трываць і жыць.

У свёй творчасці Эдуард Акулін выступае як захавальнік вобразу ідэальнай Беларусі. З поўнай адказнасцю, з усёй шчырасцю і адданасцю паэт пераняў гэтую місію ў Максіма Багдановіча. Яна з'яўляецца для яго меркаю ўсіх наступных жыццёвых і грамадскіх калізіяў. Яна давала яму поўнае права і ўнутраную ўпэўненасць выносіць сваё меркаванне, сваю жыццёвую пазіцыю на грамадскі суд.

У вершах, прысвечаных тым праблемам, якія паўсталі перад беларусамі ў другой палове 90-х гадоў, Эдуард Акулін выступае як глыбоканацыянальны паэт, як творца агульнабеларускага спамеру, які рупіцца за ўсю Беларусь, за ўвесь беларускі народ. У гэтых вершах ён падтрымлівае і развівае сапраўды нацыянальныя і народныя матывы, якія гучалі ў творчасці класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Максіма Багдановіча. Мінула амаль стагоддзе, гісторыя ізноў вывела беларусаў на лёсавызначальныя ростані. Ізноў беларускія паэты з выкрышталізаванай грамадзянскай пазіцыяй апынуліся з сваімі вершаванымі паходнямі-святачамі ў першых радох беларускага дэмакратычнага нацыянальнага-свядамага грамадства, заклікаючы ўсіх беларусаў да лепшай будучыні.

XI.

У зборніку "Радно" Эдуард Акулін адводзіць пэўнае месца вершам, дзе ён працягвае адлюстроўваць прыгажосць беларускай прыроды. Ягоныя эскізныя вершы нагадваюць мастацкія карціны беларускіх краявідаў, напоўненыя светапоглядам паэта.

З розных пораў году Эдуард Акулін найбольш схільны апісваць восень. Тон ягоных вершаў-эскізаў амаль заўсёды элегічны, з рознымі адценнямі суму і маркоты. Адпаведны настрой паэта змушае яго звяртацца да тых праяваў у прыродзе, якія сугучныя ягонаму ўспрыманню жыцця. Багацце восеньскай прыроды перагукаецца з багаццем пачуццяў і ўражанняў у душы ў паэта:

*Верасень мярэсціцца ў смузе*
*водсвету лісцёвай пазалоты.*
(Верасень мярэсціцца
ў смузе, с. 194/1-2)

Няспынная хада часу. Верасень змяняецца на кастрычнік:

*Колькі ўслед ні крычы, ні галёкай -*
*Восень схільная скрозь да капрыз -*
*адашле залатыя аблокі*
*у працяглы заморскі круіз.*
*...*
*Хоць далёка яшчэ да марозаў, -*
*лета Бабіна - так неўспадзеў.*
(Асенняе, с. 212/1-4, 9-10)

Кастрычнік непазбежна саступае месца лістападу:

*Мару не прыручыш да галін...*
*Тонучы ў нябесным сінявіры,*
*спакваля лістоў асенніх клін*
*адплывае ў свой апошні вырай.*
(Лістапад, с. 195/5-8)

А затым надыходзіць зіма:

*Нібы ў лёд, у высі ўмерзлі зоркі.*
*Заўтра Богу доўга высякаць*
*Панядзелка крыгу, каб Аўторак*
*сваё месца ў небе змог заняць.*
(Зіма, с. 189/5-8)

Плыве жыццё. З'явы прыроды праплываюць навокал чалавека. Чалавек - і частка гэтага сусветнага руху, і аб'ектыўны летапісец і рэгістратар. Дзякуючы яму бязмэтная хада жыцця набывае сэнс.

Паэт трапна натуе эскізы, звязаныя з канкрэтнымі мясцінамі і малюнкамі прыроды:

*На кульмане Свяцкага возера*
*свавольны чарцёжнік Вецер*
*гадзінай не надта позняю*
*алоўкам чароту крэсліць.*
(Эскіз, с. 208/1-4)

Зазвычай, прыродныя эскізы ў паэта вобразныя і метафарычныя. Каб перадаць свае ўражанні Эдуард Акулін знаходзіць свежыя вобразы і параўнанні:

*Раптам успомніцца вёска Драганава,*
*ліпень ахрыплы ад шоргату кос*
*і туманы, што над Пціччу тарпанамі*
*нізка ляцяць, не збіваючы рос.*
(Згадка, с. 207/1-4)

Няўхільна прыцягвае і заварожвае паэта чароўнасць вады. У вадзе Эдуард Акулін бачыць не толькі першапрычыну жыцця, але і поўную яе супярэчнасць, фатальную прыгажосць смерці:

*Дрэва бязроднае гоніць рака -*
*рыба ў лісці зялёным...*
*Вынырне месяц - чаўном рыбака -*
*высвеціць невад кроны.*
*...*
*Тут у вірах, што магіл глыбей,*
*змірыцца з лёсам волат...*
*І прычакае драпежны глей*
*золата чорнай зморы.*
(Морыва, с. 197/1-4, 9-12)

У форме замалёвак-чатырохрадкоўяў Эдуард Акулін паспрабаваў апісаць свае адчуванні і пачуцці, звязаныя з Чарнобыльскай катастрофай. Па чатыры радкі выдзеленыя паэтам на кожны месяц года. Зададзены формаю паэтычны мінімалізм надзвычай сціснуў сэнс выказанага. Здавалася б чыста эскізныя, тэматычна прыродныя вершы паэта, які прапусціў праз сябе чарнобыльскую катастрофу, набываюць грамадскі, сацыяльны сэнс, але без лозунгавасці і адкрытага пафасу, з унутраным перажываннем і трагічным падтэкстам:

*Прамяклых дахаў шыферныя крылы*
*на ветры з поўдня колькі ні сушы...*
*Узняцца ў неба знoў не хопіць сілы*
*забытай вёсцы ў прыпяцкай глушы.*
(Чарнобыльскі год.
Сакавік, с. 218/11-14)

Чарнобыльская трагедыя - агульная, яна мае нацыянальны спамер і закранае, хочам мы таго ці не, кожнага з жыхароў Беларусі. Але яна - і прыватная. Яна бязлітасна прайшла праз сэрца і лёс тых з беларусаў, хто апынуўся ў забруджанай зоне і вымушаны быў пакінуць родныя мясціны:

*Веткаўцы, свяцілаўцы, чачэрцы,*
*з Хойнікаў, з Нароўлі, з Астрагляд...*
*Землякі мае, мы - чарнаверцы.*
*Веру нашу выдае пагляд.*
(Чарнобыльскі год.
Малінаўскі жнівень,
с. 217/1-4)

Эдуард Акулін не стамляецца зноў і зноў звяртацца да Чарнобыля, бо, на ягоную думку, занадта багата знакаў і сімвалаў, пасланых беларусам, звязана з гэтай грандыёзнай катастрофаю стагоддзя. Паэт маркуе, што ўсім нам вельмі важна слушна іх прачытаць і зразумець. Ён звяртаецца да беларусаў з сваёй праўдай, роздумам і высновамі, фіксуючы іх у паэтычных радках, у мастацкіх вобразах, у пэўным падтэксце і асацыяцыях. Але ці гатовыя мы ўспрыняць гэтую праўду…

*(Працяг у наст. нумары.)*

# "А думы мае аб Беларусі..."

***Да выхаду ў свет 23-томнага збору твораў Ніла Гілевіча.***

З вялікай радасцю трымаю ў руках, перагортваю, перачытваю ёмістыя, прыгожа выдадзеныя кнігі 23-томнага збору твораў Ніла Гілевіча, выказваю яму шчырую падзяку за такі шчодры падарунак і не перастаю здзіўляцца, захапляцца маштабам асобы аўтара, гэтага волата беларускага духу, які столькі сіл, намаганняў, выдатных твораў паклаў на алтар Бацькаўшчыны і роднага слова.

Як сёння, памятаю дзесяцігадовай даўнасці прэзентацыю праекта 23-томніка, і тады прысутным здавалася, што гэта будзе клопат дзяржавы - выдаць збор твораў Народнага Паэта. Але, дзе вы бачылі такое ў сённяшняй Беларусі? Ніл Сымонавіч сам прарабіў - велізарную працу, якая пад сілу цэламу інстытуту і ні на кога не спадзяючыся выдаў (на працягу 2003 -2013) усе 23 тамы за ўласны кошт. Як дбайна, па-гаспадарску разумна.

Ён навёў парадак у сваёй вялікай літаратурнай спадчыне: адабраў найлепшае з усяго створанага за доўгую творчую дарогу (а пачаў друкаваць першыя вершы ў 1946 г.), зрабіў укладанне кожнага тома, выбудаваў стройную тэматычна-жанравую сістэму з раней апублікаваных у розныя гады 80-ці кніг. І якіх кніг! Вядома ж, не колькасцю напісанага вызначаецца талент творцы, але і колькасцю таксама, калі кожны твор цікавы і непаўторны сваімі мастацкімі якасцямі, высокаэстэтычнымі крытэрыямі, вострападзёнымі праблемамі з жыцця народа, Бацькаўшчыны, якія ў інтэрпрэтацыі аўтара знаходзяць сваё праўдзівае ўвасабленне, нікога не пакідаюць абыякавым.

І не ў лепшы перыяд свайго асабістага жыцця працаваў Ніл Сымонавіч над выданнем 23-томніка, калі страціў ён незабыўную Ніну Іванаўну, якая была для паэта верным, найлепшым сябрам, дарадчыкам, аб'ектыўным крытыкам і памочнікам ва ўсіх справах. Яна была глыбокім знаўцам і даследчыкам роднай беларускай мовы, таленавітым педагогам, выкладчыкам універсітэта, карысталася нязменнай любоўю і павагай студэнтаў. (Я гэта дакладна ведаю, бо пэўны час працавала разам з Нінай Іванаўнай.) Ніл Сымонавіч, паралельна з працай над тамамі, выдаў шэсць навуковых кніг Ніны Іванаўны, напісаў аповесць - успамін пра яе нялёгкае дзяцінства і юнацтва (т. 14), прысвяціў кранальныя вершы. *"Пры жыцці яна не выдала ніводнай сваёй кнігі,* - адзначаў Ніл Сымонавіч, - *бо ўсе сілы да астатку ахвяравала на аднаго паэта, бачачы, чым ён жыве, чым пакутуе. У дасье КДБ "Нацыяналісты" я ішоў пад нумарам 1, дык вось Яна была нацыяналісткай за мяне большай. Яна і цяпер мне дапамагае адтуль..."*. Відаць, так яно і ёсць, адчуванне яе прысутнасці надавала сілы, дапамагала Паэту рабіць сваю тытанічную працу, пераадольваць роспач, жыць надзеяй, што работа будзе завершана.

У адным з нядаўніх іранічных чатырохрадкоўяў Паэт канстатуе: *"Дзівак выдае свае творы за крохі ад пенсіі, накладам у семдзесят кніг..."* Няхай і семдзесят асобнікаў, але гэтае, ужо сёння, рарытэтнае выданне. Трапіўшы ў бібліятэкі, падоранае блізкім, знаёмым і незнаёмым аднадумцам, будзе свяціцца сярод кніг класікаў беларускай, рускай, сусветнай літаратур. Назаўсёды ў людской памяці застануцца творы Ніла Гілевіча, бо хто не ведае яго выдатныя вершы, песенную лірыку, хто не зачытваўся яго раманам у вершах "Родныя дзеці", выдатнымі паэмамі, гумарыстычнымі творамі, "Сказам пра Лысую Гару"? І нездарма дамінуючае месца ў 23-х томніку займае паэзія (9 тамоў), у тым ліку перакладзеная з славянскіх літаратур (балгарскай, рускай, украінскай, польскай, славенскай, сербскай, харвацкай, македонскай, славацкай, чэшскай, лужыцкай). Ім перакладзена каля 400 паэтаў, і як арганічна яны загучалі на беларускай мове, як узбагацілі беларускую літаратуру! І гэтымі таленавітымі пераўтварэннямі Ніл Гілевіч яшчэ раз даказаў, якая прыгожая, мілагучная родная мова і на ёй можна гаварыць з цэлым светам, уносіць у сусветную культуру і беларускі духоўны скарб. Таму ўсё жыццё Народны Паэт, як ніхто, ярасна-бунтарна б'е ў Багушэвічаў звон: *"Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!"*

Ён добра разумее, што *"сённяшняе становішча нашай мовы на сваёй роднай зямлі - вынік нясканчоных гвалтаў над ёю"*. Любоў да роднага слова, абарона яго, неадступнае імкненне раскрыць, падкрэсліць яго прыгажосць, лексічнае багацце і разнастайнасць, роднасць з іншымі славянскімі мовамі - магістральная лінія ва ўсёй творчасці Паэта. Колькі цудоўных вершаў прысвечана ёй, колькі востра-балючых артыкулаў, выступленняў, зваротаў апублікавана, напісана цэлая кніга-даследаванне "Любоў праведная". І ўсё гэта - як і вершы, пераклады, публіцыстыка, проза - створаны на выдатнай роднай мове, якая ліецца ў душу, як пошум вясенняга бярозавага гаю, журчанне лясной празрыстай крыніцы, песня маці.



А колькі моўных скарбаў ім знойдзена ў фальклоры, які ён збіраў даследаваў многія гады і па праву ўвёў у свой збор твораў два тамы фалькларыстыкі (19,20). Але і ў тамах-водгуках на творчасць паэтаў і пісьменнікаў Беларусі і замежных краін, у драматургіі, творах для дзяцей, літаратуразнаўчых, крытычных артыкулах, дзённікавых запісах, аўтабіяграфічным роздуме - усюды чуецца гімн роднаму слову.

*З чаго пачаў калісь, тым і канчаю,*
*Пакуль пяро не выпала з рукі -*
*Табе, народзе мой, я прысвячаю*
*І самыя апошнія радкі.*

*Жыві! Працуй! Твары свой лёс уласны!*
*Сам, сам сабе дарогу пракладай!*
*І слова роднае, як дзень свой ясны,*
*Да скону свету пагасіць не дай!*

У гэтых радках адкрываецца свет душы Паэта, тая праўда жыцця, якая была галоўнай у яго кнігах. Асабліва праўдзівым напалам вылучаюцца жанры, што вымагаюць пазіцыяй "Не магу маўчаць", дзе дамінуе мужная разважлівасць грамадзяніна-патрыёта, гучаць ноты трывогі, суму, тугі, рашучага непрымання цяжкага стану, які склаўся за апошнія дваццаць гадоў у нашай краіне. Ва ўсіх яго кнігах незвычайна прывабліівае творчая свабода Паэта, бо пра што б ён ні пісаў, якія б балючыя праблемы беларускага жыцця ні закранаў - нідзе не адчуваецца "ўнутраны цэнзар", які дазваляе самому сабе, пра што пісаць, пра што маўчаць. *"У маё сэрца, душу навек увайшла вялікая, неператожная праўда, без якой не можа быць свабоднага жыцця"*, - і ў гэтых словах Ніла Гілевіча чуваць найперш высокапатрабавальная мера ўласнага разумення сябе і свайго пісьменніцкага абавязку. А свой абавязак грамадзяніна ён бачыць у служэнні народу, праўдзе, дабру і роднаму слову, у змаганні за беларускую Беларусь. У гэтым Ніл Гілевіч - найпершы "нацыяналіст" сярод беларусаў.

У рэчышчы традыцыйна - гуманістычнай накіраванасці беларускай класічнай літаратуры (а гэта творы Я. Купалы. Я. Коласа, М. Багдановіча. М. Гарэцкага, К. Чорнага, Я. Брыля, І. Мележа, У. Караткевіча, П. Панчанкі. В. Быкава і мн. іншых аўтараў) стваралася кнігі Ніла Гілевіча, якія сёння нясуць беларусам святло і праўду нацыянальнай ідэі, выхоўваюць любоў і павагу да роднай зямлі, гісторыі, мовы. *"Бо паэт - нібы сонца - ён свеціць наўкола. І зусім не шуміць ён, а клімат стварае"*, - слушна пісаў балгарскі паэт Хрыста Радзеўскі (яго перакладаў Ніл Гілевіч - 7 т.), дакладна вызначыўшы сутнасць таленту кожнага народнага паэта.

У творчасці Ніла Гілевіча глыбока і праўдзіва раскрыта цэлая эпоха нашага жыцця XX - пачатку XXI стагоддзяў. Ім сапраўды створаны беларускі клімат духоўнага стану нацыі, паказана яе тая адметнасць, чым яна цікавая свету. І сёння Ніл Гілевіч для суайчыннікаў, шматлікіх прыхільнікаў яго таленту, якія могуць сказаць: "Мы з племені Твайго, Паэт!" - з'яўляецца гонарам і сумленнем беларусаў, той ахоўнай аўрай, якая выратоўвае ад бездухоўнасці, бязвер'я, надае ўпэўненасці, што Беларусь жыве і будзе жыць.

***Лідзія Савік.***

# "Узаемапамнажэнне нашых дум і душ"

У Менскай бібліятэцы імя Адама Міцкевіча ў касцёле св. Сымона і Алены адбылася сустрэча чытачоў з паэтам Анатолем Вярцінскім. На ёй прысутнічалі сябры ТБМ з Менска і Магілёва.



З творамі Анатоля Вярцінскага прысутных пазнаёміла артыстка тэатра "Зьніч" Галіна Дзягілева. З яе вуснаў узрушана прагучалі вершы пра каханне, пра з'яўленне чалавека на свет, якое нясе спадзеў на нараджэнне свята.

Галіна Дзягілева нагадала, што менавіта спектакль на вершы Анатоля Вярцінскага быў адным з першых пры стварэнні тэатра "Зьніч" у Чырвоным касцёле. Таму вершы паэта ёй добра знаёмыя і блізкія па настроі - узнёслым, ачышчальным, ідэальным. "Мы заўсёды шукаем таго, хто паклікаў нас да прыгажосці, да разумення сэнсу жыцця, да шчасця, каб "дарыць адзін аднаму зоры". І ім становіцца паэт",- сказала артыстка.

Творам А. Вярцінскага ўласцівы высокі грамадзянскі пафас, філасафічнасць, аналітычнасць, вострая публіцыстычнасць. Паэт асэнсоўвае "вечныя" праблемы чалавечага існавання, маральныя каштоўнасці жыцця, услаўляе духоўную веліч чалавека.

***"Табе дараваны свет.***
***Табе належыць вечнасць."***

Анатоль Ілліч Вярцінскі нарадзіўся ў Лепельскім раёне на Віцебшчыне ў 1931 годзе. Тэма надыходу вайны, перажыванні ваеннага часу былі аднымі з першых у яго творчасці.

Пасля заканчэння журфака БДУ літаратар працаваў у рэдакцыях раённых газет у Камянцы, Давыд-Гарадку, Клімавічах, Рагачове. Клопат пра звычайнага сельскага чалавека і дапамога яму ў штодзённых патрэбах былі яму блізкімі ў той перыяд. Па меры сталення журналісцкага і паэтычнага даравання Анатоль Вярцінскі займаў пасады супрацоўніка, а пазней - рэдактара газеты " Літаратура і мастацтва", рэдактара выдавецтва "Савецкая Беларусь".

У складзе дэлегацыі БССР ў 1977 годзе Анатоль Вярцінскі ўдзельнічаў у рабоце XXXII сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Пісьменнік на сустрэчы ўзгадаў той перыяд, калі ў 1990-1995 гадах ён быў дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларусі, намеснікам старшыні пастаяннай Камісіі па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека, членам Канстытуцыйнай камісіі.

Анатоль Ілліч быў адным з суаўтараў Дэкларацыі Незалежнасці. Ён прымаў удзел у абмеркаванні і прыняцці Закона аб свабодзе веравызнання на Беларусі. Гэта дазволіла ў хуткім часе вярнуць вернікам будынак Чырвонага касцёла, узнавіць духоўнае і культурнае жыццё парафіі, заахвоціць музыкаў, артыстаў і спевакоў да супрацоўніцтва з касцёлам.

А.І. Вярцінскі - аўтар зборніка літаратурнай крытыкі і публіцыстыкі "Высокае неба ідэала" (1980) і кнігі публіцыстычных нататак "Нью-Ёркская сірэна" (1987), за якія быў узнагароджаны Дзяржаўнай прэміяй БССР.

А. Вярцінскі напісаў п'есы для дзяцей "Дзякуй, вялікі дзякуй" (пастаўлена ў 1974),"Скажы сваё імя, салдат" (пастаўлена ў 1975), "Гефест - друг Праметэя" (пастаўлена ў 1984). У 1983 г. выйшаў яго зборнік п'ес пад назвай "Дзякуй, вялікі дзякуй". У нядаўнія гады былі выдадзены кнігі Анатоля Вярцінскага "Мужчына, жанчына, каханне" (2004), "Любоў адкрывае скарбы" (2000). Паэт ахвотна ўдзельнічае ў творчых сустрэчах на Беларусі і за мяжой.

***Э. Дзвінская***

**На здымку:** Алег Дзьячкоў і Анатоль Вярцінскі.

# Вечарына да 100-годдзя з дня нараджэння Аркадзя Куляшова прайшла ў Магілёве

17 студзеня ў Магілёўскай гімназіі № 1 адбылася літаратурна-музычная вечарына "І кружыцца планета Куляшова", прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння народнага паэта Беларусі, ураджэнца Магілёўшчыны Аркадзя Куляшова. У сустрэчы ўзялі ўдзел сябры Магілёўскага абласнога аддзялення СБП Яраслаў Клімуць, Сяргей Украінка і Мікола Яцкоў.



Настаўніца беларускай літаратуры Ганна Бандарэнка распачала сустрэчу словамі пашаны да асобы Аркадзя Куляшова, які пакінуў яркі след на небасхіле беларускай паэзіі.

Даследчык творчасці А. Куляшова, літаратуразнавец Яраслаў Клімуць зрабіў рэтраспектыву жыцця і творчасці паэта, звярнуўшы ўвагу на малавядомыя факты біяграфіі А. Куляшова.



Паэт Сяргей Украінка распавёў пра тое, які ўплыў зрабіла паэзія Куляшова на ягоную творчасць і прачытаў некалькі сваіх вершаў.

Паэт і кампазітар-песеннік Мікола Яцкоў у сваім выступе зрабіў акцэнт на меладычную аснову вершаў Аркадзя Куляшова і выканаў тры свае песні на вершы паэта.

Яраслаў Клімуць прэзентаваў прысутным альманах магілёўскіх літаратараў "Брама", Мікола Яцкоў перадаў гімназістам свой падарунак - песеннік "Птушка залатая" на вершы Аркадзя Куляшова і аўдыёдыск з гучаннем гэтых песень.

*Прэс- служба СБП.*

# "Мая кветка" - дзеткам

**Ала Васільеўна Кажэра** - адна з тых прадстаўнікоў нашай інтэлігенцыі (па прафесіі яна - настаўніца беларускай мовы), што яскрава праявілі сябе ў беларускім адраджэнцкім руху. З пачатку 90-х гадоў яна ўзначаліла незалежнае згуртаванне настаўнікаў, ад самага пачатку ўсёй душой і чынным удзелам падтрымала Таварыства беларускай мовы. Часта выступала ў друку з артыкуламі, вершамі, апавяданнямі. Спрычынілася яна і да стварэння Беларускага гуманітарнага ліцэя, адстойвала ідэю яго стварэння аж у Маскве (тады яшчэ без Масквы было нія к!), выконвала працу па яго арганізацыі. Працавала ў ім нейкі час намеснікам дырэктара па вучэбнай частцы. Ала Васільеўна - сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Яна - аўтарка зборнікаў вершаў "Ліхтасць надзеі" і "Вярніся ў казку", а таксама падрыхтаванага да друку зборніка вершаў і апавяданняў "Пад нябёснай ахой". На словы Алы Кажэры напісана больш, як 20 песень. Сярод іх - "Верасьнёвы вальс" (музыка Леаніда Захлеўнага) і "Родная школа" (музыка Алега Чыркуна) - песні, якія былі ўключаныя ў школьныя падручнікі па спевах. Цяпер, праўда, гэты прадмет зліквідаваны ў школе, пакінуты толькі ў пачатковых класах. Да таго ж, у многіх школах падчас Свята першага званка выконваецца не "Верасьнёвы вальс", а песня савецкіх часоў "Школьные годы чудесные" з яе рускай мовай і ўсімі савецкімі рэаліямі ў тэксце (як, напр., камсамол і інш.).

Напрыканцы 2013 года выйшаў яшчэ адзін паэтычны зборнік Алы Кажэры, гэтым разам для дзяцей дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту - "Мая кветка" (выдавецтва "Ковчег"). Кніжка атрымалася не толькі цікавая на змесце, але і вельмі прыгожая, маляўнічая па афармленні. У якасці ілюстрацый да вершаў выкарыстаны дзіцячыя малюнкі, зробленыя выхаванцамі студыі "Эўрыка" Фрунзенскага раёна г. Менска пад кіраўніцтвам педагога Лябецкай Лідзіі Васільеўны. Якасна і густоўна выканала сваю работу выдавецтва (выдатная глянцавая папера, выразныя шрыфты, яскравыя фарбы) - і кніжка атрымалася цудоўная! А з дзіцячымі малюнкамі - яшчэ і непаўторная, унікальная. А колькі радасці і які гонар было атрымаць юным мастакам кніжку са сваімі ўласнымі работамі, падпісанымі іх імёнамі і прозвішчамі! Які стымул для іх - удасканальваць сваё майстэрства, каб стаць у будучыні сапраўднымі мастакамі!

Ала Васільеўна атрымала ўжо шмат станоўчых водгукаў на зборнічак, сведчанняў таго, што ён зацікавіў дзяцей, спадабаўся. Напрыклад, патэлефанавалі яе знаёмыя з Баранавічаў і распавялі, як дзяўчынка Ліда патрабуе ў бабулі чытаць ёй увечары на сон менавіта гэтую кніжку!

Шкада толькі, што гэтую кніжку аўтарцы давялося выдаваць уласным коштам і таму - невялікім накладам. А яна ж патрэбная беларускім дзецям!

Вось з такімі творчымі здзяйсненнямі ўступіла Ала Васільеўна Кажэра ў юбілейны для сябе 2014 год.

Пажадаем жа ёй добрага здароўя і творчых поспехаў!

***Святлана Багданкевіч,***
*г. Менск.*

# Магілёўцы ўступілі ў новы год







12-га студзеня, перад Старым Новым годам, у Магілёве адбылася святочная сустрэча сяброў ТБМ і прыхільнікаў беларушчыны. Усяго ў грамадскі цэнтр "Кола" завітала каля сямідзесяці чалавек, апроч святочнай вячэры гасцей усцешылі віктарыны, танцы, спевы, выступы таленавітых творцаў Магілёўшчыны і, натуральна, калядоўшчыкі. Навагодні падарунак быў перададзены беларускамоўнай вучаніцы Ялінцы Салаўёвай. Падзяку за сваю дзейнасць на ніве беларушчыны атрымалі старшыня магілёўскай гарадской арганізацыі ТБМ Алег Дзьячкоў і Сяргей Дымкоў. Прысутных павіншавалі са святамі пісьменнік Віктар Арцем'еў. Дасціпныя паэтычныя творы на яскравай і жывой мове чыталі Тацяна Барысік і Тамара Цыганкова, а Валянціна Палынцава прачытала свае ўлюбёныя байкі. Выступілі і самыя маленькія беларусікі. Усцешылі ўсіх сваім з'яўленнем вясёлыя калядоўшчыкі (прыхільнікі Студэнцкага этнаграфічнага таварыства). Падчас віктарыны госці свята змаглі праверыць сваю эрудыцыю, узмацніць жа святочны настрой дапамаглі і гарачыя танцы.

Выступае Тацяна Барысік

Гэтак весела, у прыязнай атмасферы магілёўцы праводзілі стары год, і магілёўская гарадская арганізацыя ТБМ адгарнула новую старонку ў сваім жыцці.

***Аляксей Карпенка.***

# Зорка Яўгена Чамадурава

28 студзеня 2011 года Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Рэспублікі Беларусь запрасіў на выставу "Я. Чамадураў. Творчая рыса - шматграннасць", якая прымеркавана да 100-гадовага юбілею народнага мастака Беларусі Чамадурава Яўгена Рыгоравіча (1914-2006).

Яўген Чамадураў - тэатральны мастак, заслужаны дзеяч мастацтваў Таджыкістана (1945), Літвы, Расіі (1953). Народны мастак Беларусі (1963).

Нарадзіўся 28 студзеня 1914 года ў горадзе Шуміха Курганскай вобласці (Расія). Скончыў Ленінградскую акадэмію мастацтваў (1938). Працаваў у тэатрах Масквы, Душанбэ, Чалябінска, Кіева і іншых.

У 1959-1976 галоўны мастак Дзяржаўнага тэатра оперы і балета Беларусі. У розныя часы Яўген Чамадураў аформі ў спектаклі: "Пікавая дама" П. Чайкоўскага (1960, 1972), "Аіда" Дж Вэрдзі (1953), "Калючая ружа" (1960). "Зорка Венера" (1970) Ю. Семянякі, "Заручаны ў манастыры" С. Пракоф'ева (1962), "Арэстэя", С. Танеева (1963), "Яснае світанне" А. Туранкова (1964), "Князь Ігар" А. Барадзіна, "Алеся" Я. Цікоцкага (1967), "Брэсцкая крэпасць" К. Малчанава (1967), "Мара" (1961), "Альпійская балада (1967), "Выбранніца" (1969) Я. Глебава, "Святло і цені" Г. Вагнера.

Майстар высокага ўзроўню сцэнаграфічнага мастацтва. У творчасці прытрымліваўся прынцыпу спалучэння ў адзінае цэлае сутнасці музычнага твора, рэжысёрскай задумы і акцёрскага выканання.

На адкрыцці выставы выступілі: Валеры Карлавіч Гедройц (намеснік дырэктара Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі, мастакі: Алесь Аляксандравіч Касцючэнка, Уладзімір Фёдаравіч Чарнышоў, Міхась Андрэевіч Карпук, а таксама дачка Чамадурава - Наталля Яўгенаўна.

З успамінамі пра агульныя падарожжы выступаў сябра мастака прафесар, кандыдат юрыдычных навук Астроўскі Леанід Якаўлевіч.

Абагуліла ўсё сказанае гаспадыня ўстановы Кучар Зінаіда Лявонаўна.

Трэба адзначыць, што на выстаўцы прадстаўлены ўнікальныя эскізы мастака, праграмы, афішы, яркія і прыгожыя касцюмы з фондаў Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Рэспублікі Беларусь.

Шкада, што на магіле вядомага мастака (Усходнія могілкі) ужо амаль 8 год адсутнічае помнік! Таксама заклікаю грамадскасць наведаць выставу ў музеі.

***Аляксей Шалахоўскі,***
*гісторык, журналіст.*



*Яўген Чамадураў. Фрагмент дэкарацыі да оперы "Аіда".*

## *Першы Лідскі зімовы матазлёт "Люты - 2014"*

***Дарагія сябры! Матаклуб Devoid of Rights MCC рады запрасіць Вас на Першы Лідскі зімовы матазлёт "Люты - 2014". Мерапрыемства пройдзе 7-9 лютага 2014 г. у санаторыі "Вясёлка", які знаходзіцца за 15 км ад г. Ліды.***




***Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік***

***Заснавальнік:*** ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі*** № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
***Адрас рэдакцыі:*** 231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:*** 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** naszaslowa@tut.by

***Рэдакцыйная калегія:***
Алена Анісім, Юрась Бабіч, Юля Бажок, Марыя Баравік, Вінцук Вячорка, Юрась Каласоўскі, Леакадзія Мілаш, Максім Новік, Язэп Палубятка, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.
**http://nashaslova.mns.by/ http://pawet.net/ http://kamunikat.org/ http://tbm-mova.by/**

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзеных інфармацый***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 3.02.2014 г. у 10.00. Замова № 183.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 5600 руб., 3 мес.- 16800 руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.